



# Рэгіянальная газета. Rh.by

ТэлетыДзень 27

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

8 мая 2015 года №19 (1045)


# Дзякуй за Перамогу!

## Чытайце ў нумары на старонках 20-21:

- Тыповыя лёсы жыхароў мястэчка Лебедзева ў вайну
- Ён не хадзіў па школах і рэдка казаў пра вайну
- Магілу воіна дапамаглі знайсці інтэрнэт і віляйчане
- У рэгіёне засталося 280 удзельнікаў вайны



МАЛАДЗЕЧНА

На здымку Барыс Данілавіч Казакоў з жонкай Ірынай Вікенцеўнай. Ён пайшоў дабравольцам на вайну, калі яму было 16 гадоў. Перамогу сустрэў у Кёнігсбергу. Пасля вайны накіравалі ў Беларусь. У Вілейцы пазнаёміўся з жонкай. У Барыса Данілавіча і Ірыны Вікенцеўны двое дзяцей і пяць унукаў.

Наталля ТУР,
Настасся РОЎДА (фота).



**Этыкетка ашмянскага сыру, якую прывезлі з Ніжняга Ноўгарада. Тое, што наклейка падробленая, праверылі з дапамогай лінейкі. На здымку этыкетка 15 сантыметраў, а фірменная ашмянская заўсёды 27 сантыметраў. Фота Наталлі ТУР.**

● ЗДАРЭННІ

# Нашу малочку падрабляюць у Расіі

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, АШМЯНЫ

**Падробленую прадукцыю Ашмянскага сыраробнага завода знайшоў на паліцах крамы ў Ніжнім Ноўгарадзе дырэктар маладзечанскага прадпрыемства “Маладзея” Уладзімір Бобрык.**

– Калі Валожынскі філіял нашага прадпрыемства быў на рамонце, мы сыр на дагаворнай аснове выпускалі ў Ашмянах. Тады я дакладна запомніў, як выглядае фірменная этыкетка. Таму адразу заўважыў падман. І гэта не адзіны выпадак, калі прадукцыя нашага завода падрабляецца ў Расіі. Два гады таму быў выпадак з падробкай вілейскага масла.

## Натуральны прадукт з падробкай канкураваць не можа

– Пра тое, што ў Расіі падрабляюць наш сыр, нам вядома яшчэ з года 2010-2011, – кажа спецыяліст па знешнеэканамічнай дзейнасці Ашмянскага сыраробнага завода **Максім Ляпеха.**

> Цяпер прыкладна раз на месяц пакупнікі з Расіі паведамляюць пра тое, што знайшлі падроблены сыр.

**– А вы якія меры прымаеце, каб пазбегнуць такіх выпадкаў?**

– Мы практычна нічога не можам зрабіць. Падробкай жа займаюцца не магазіны, не салідныя фірмы, а ценявыя фірмы, з сумнеўнай рэпутацыяй. Іх у Расіі безліч. Знікае адна, з'яўляецца іншая. Нам застаецца толькі абараняць сваю прадукцыю.

Робіць гэта Ашмянскі сырзавод пры дапамозе фірменных этыкетак, вадзяных знакаў. Апошнім часам назву завода сталі выбіваць на самой сырнай галоўцы.

Максім Ляпеха тлумачыць, што з-за дзейнасці такіх фірмаў яны губляюць сваіх кліентаў:

– Наша натуральная, цалкам зробленая з малака, прадукцыя не можа канкураваць з таннымі аналагамі. Вытворцы падробкі выкарыстоўваюць танны пальмавы алей, тым самым змяншаюць сабекошт прадукцыі.

Такія прадукты, у складзе якіх прысутнічае раслінны тлушч, павінны называцца сырным прадуктам. А на справе атрымоўваецца, што такія вытворцы падманваюць пакупнікоў. Выдаюць прадукт за натуральны сыр.

## Мы ў сваёй прадукцыі ўпэўненыя. А расіянам трэба быць пільнымі

Дырэктар вілейскага філіяла **Марына Вазняк** з неахвотай успамінае выпадак, калі ў Расіі падрабілі іх масла:

– Вельмі непрыемна было, калі даводзілася апраўдвацца ў сітуацыі, дзе я на 100 працэнтаў упэўненая ў якасці нашых прадуктаў. Тады ўсе доказы, дакументы, якія мы мелі, перадалі нашым праваахоўным органам. І больш не цікавіліся развіццём падзей. Больш такіх выпадкаў падробкі мы не чулі, а ці знайшлі вінаватых у той, мы так і не ведаем.

Марына Пятроўна кажа, што абараніць прадукцыю вельмі цяжка, таму што ў Расіі беларуская прадукцыя вядома сваёй якасцю і падрабляць яе камусьці выгадна.

– Я магу запэўніць толькі ў тым, што беларускія пакупнікі набываюць якасную прадукцыю, а расіянам трэба быць пільнымі.

**Наталля ТУР.**





Фота з архіва Волі ТРУБАЧ

● ДА 20-ГОДДЗЯ “РГ”

# Пра газету гаворыць Воля Трубач

**Свае адчуванні пра “Рэгіянальную газету” выказала пастаянная яе чытачка, адна з аўтарак Воля Трубач.**

З газетай яна пазнаёмілася яшчэ ў школе, калі тата прыносіў з працы прэсу.

– Знешні выгляд газеты чапляе вока – проста, але з густам. Падабаецца аптымістычны памяранцавы колер вокладкі, асаблівы шрыфт артыкулаў. У газеце “ўтульна”: не толькі строгія факты, але чалавечы падыход пры расповедзе пра іх.

Мне цікава знаёміцца з краязнаўчымі і культурнымі навінамі. Пачытаеш і разумееш – жыццё віруе, і не толькі ў Мінску! Ад гэтага становіцца радасна.

І, безумоўна, паклон за беларускую мову. У газеце яна сябе вельмі арганічна адчувае. Падабаецца, што навіны рэгіёна можна пачытаць па-беларуску!

Выдатна, што ў наш “электронны час” газета мае папяровы выгляд.

“Рэгіянальная газета” адкрытая для новых ідэй. Менавіта дзякуючы ёй у мяне з'явілася магчымасць дзяліцца з людзьмі рэгіёна артыкуламі пра падарожжы, у газеце з'явілася рубрыка “У Дарозе”.

Жадаю, каб газета і надалей радавала рэгіён сваім памяранцавым святлом.

**З найлепшымі пажаданнямі педагог і вандроўнік Воля ТРУБАЧ.**

● ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# На старых могілках у Ільі знайшлі 200-гадовае надмагілле

ВІЛЕЙКА

У суботу, 2 мая, на старых яўрэйскіх могілках, што ў вёсцы Ілья, сабраліся людзі, неабыякавыя да нашай мінуўшчыны.

Гэта 14 вучняў 5-9 класаў Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца з настаўнікамі **Людмілай Маркевіч** і **Розай Шэрай**, сябры таварыства “Ахова помнікаў Беларусі” **Дзяніс Канецкі**, **Павел Хванскі**, **Дзмітры Хаценчык**, дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар** і культуролаг з Мінска **Ала Сідаровіч**.

На тэрыторыі могілак прыбралі смецце, выкапалі і пачысцілі многія надмагільныя камяні. Вучням было цікава разглядаць яўрэйскія літары і арнаменты, якія добра захаваліся.

Ала Сідаровіч нам распавяла, што найбольш старыя пахаванні знаходзяцца ў цэнтры могілак. Год пахавання вельмі рэдка пісалі вядомымі нам лічбамі, замест іх выкарыстоўвалі літары яўрэйскага алфавіту. На магілах знакамітых і праведных людзей маглі быць надмагільныя збудаванні накшталт капліцы – огелі.

Да Вялікай Айчыннай вайны Ілья была яўрэйскім мястэчкам. Тут працавалі сінагогі і ешыбот – школа па падрыхтоўцы яўрэйскіх святароў, ці рабінаў.

На старых могілках пахаваны асветнік і талмудыст **Менашэ Іліер**, які жыў у Ільі ў 18 стагоддзі, а таксама некалькі мясцовых рабінаў. Але іх магілы у нас пакуль не атрымалася адшукаць.

Самае старажытнае пахаванне, якое ўдалося знайсці і расшыфраваць з дапамогай нашай госці, датуецца 1803 годам.

Адміністрацыя Ільянскай школы стала даглядае гэтыя могілкі, бо ўсведамляе іх значнасць, а падобныя мерапрыемствы – выдатны сродак выхавання вучняў.

**Аксана ЯРАШОНАК, педагог-арганізатар Ільянскай сярэдняй школы.**

● КОНКУРСЫ

# Сярод фіналістаў “Вольнага слова” журналісткі “РГ” Наталля Тур і Настасся Роўда

**Шорт-ліст фіналістаў апублікавалі ў Сусветны дзень свабоды прэсы, 3 мая.**

Арганізатары конкурсу склалі папярэдні спіс пяці найлепшых работ у кожным з намінацый. 7 мая ўзнагародзяць тых, хто выйшаў у тройку пераможцаў.

Карэспандэнткі ўдзельнічалі ў намінацыі “Дэбют” для тых, хто працуе журналістам да трох год. **Настасся Роўда** выйшла ў фінал з тэкстам, а **Наталля Тур** – з інтэрв'ю .

У фінал па ўсіх намінацыях сярод прадстаўнікоў рэгіянальных СМІ выйшлі журналісты толькі двух выданняў: “Рэгіянальнай газеты” і баранавіцкай “Intex-Press”.

Журналісты “РГ” трэці год запар ўваходзяць у шорт-ліст і перамагаюць у галоўным конкурсе сярод сяброў Беларускай асацыяцыі журналістаў.

**Аддзел інфармацыі.**

ДАРОГА

# Ці стане ў Вілейцы менш шуму ад матацыклаў?

## На сустрэчы з кіраўніком ДАІ байкеры абяцалі ездзіць цішэй

ВІЛЕЙКА

**Увечары 30 красавіка на цэнтральнай плошчы Вілейкі кіраўнік аддзялення ДАІ сустракаўся з мясцовымі байкерамі. Сабралася іх каля трыццаці. Некаторыя нават з Маладзечна прыехалі.**



Фота ru.tsn.ua

Жыхароў Вілейкі, як і іншых гарадоў, турбуе начная язда байкераў.

– Летась паступала шмат зваротаў гараджан, што байкеры ўначы носяцца па вуліцах на вялікай хуткасці і роў матораў матацыклаў перашкаджае спаць. Пачаўся сезон, вырашыў з байкерамі пагутарыць, каб па магчымасці папярэдзіць скаргі, – тлумачыць мэту сустрэчы начальнік аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Віталь Навойчык**.

Напрыклад, летась паступалі скаргі ад жыхароў дамоў па вуліцах 17 Верасня, Чапаева, Талстога, Незалежнасці, Гагарына і іншых.

У выніку, кажа Віталь Навойчык, узаемаразуменне знайшлі:

– Казалі байкеры, што будуць старацца ездзіць цішэй, адзін аднаго кантраляваць. Калі не стрымаюць слова, будуць зноў на іх скаргі, то пачнём дзейнічаць іншымі метадамі. Нарады Дзяржаўтаінспекцыі часцей будуць працаваць уначы на гэтых вуліцах. Можа дайсці да ўстаноўкі знакаў, якія забараняюць рух матацыклаў у начны час па пэўных вуліцах.

### Сустрэча пойдзе на карысць

Таксама на сустрэчы абмеркавалі захаванне правілаў бяспекі і дарожнага руху.

– Фіксуецца нямала парушэнняў сярод матацыклістаў, асабліва ў пачатку сезона, – кажа Віталь Навойчык. – Указваў, каб кантралявалі, каму яны даюць пракаціцца на сваім матацыкле – каб той абавязкова быў цвярозы, з пасведчаннем.

Са свайго боку байкеры выказвалі заўвагі, што некаторых па тры-чатыры разы за дзень супрацоўнікі ДАІ спыняюць без прычыны.

Адзін з вілейскіх байкераў арганізатар масавых катанняў на матацыклах **Дзмітры Пагуда** ацаніў вынікі сустрэчы так:

– Яна дакладна пойдзе на карысць, бо мае просьбы акуратна ездзіць па горадзе некаторых не вельмі настройвалі на спакойны манер язды. А Віталь Навойчык яшчэ раз распавёў пра адказнасць за парушэнні ў горадзе, папярэдзіў, што з матацыклістаў за парушэнні правілаў дарожнага руху спытаюць па максімуме.



Алесь ВЫСОЦКІ
E-mail: alvy@tut.by

ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Пасля продажу "Маладзечнапіва" квас не знікне, а піва – пад пытаннем

МАЛАДЗЕЧНА

Дагавор аб куплі-продажы падпісаны, паведаміла начальнік аддзела эканомікі райвыканкама **Ала Маскалюк**.

Прадпрыемства прадавалі ў працэсе ліквідацыі адным лотам, уся яго маёмасць перайшла ТАА "РоялФрутБел".

Новы гаспадар не плануе кардынальна мяняць вытворчасць і асартымент прадукцыі. Прадпрыемства будзе выпускаць мінеральныя воды, квас. Што тычыцца піва, то пакуль яго лёс вырашаецца. Магчыма, уласнік заменіць яго іншым слабаалкагольным напоем на фруктовай аснове – сідрам.

"Роял Фрут Бел" плануе запусціць працу сёлета.

Цяпер новы гаспадар набірае штат, сярод кандыдатаў і былыя работнікі "Маладзечнапіва".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПРАКУРАТУРА, СУД

## "Забудове" не дазволілі ўвайсці ў санацыю

МАЛАДЗЕЧНА

**Эканамічны суд Мінскай вобласці вярнуў холдынгу заяву аб банкруцтве.**

Пра гэта паведаміў юрыст прадпрыемства **Дзмітры Кібзюк**.

Намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце, сацыяльным развіцці і аграрных пытаннях **Генрых Кутас** дадае, што холдынг падаў апеляцыйную скаргу.

Заявы аб эканамічнай няздольнасці "Забудова" дасылала крэдыторам кампаніі ў сакавіку. Рашэнне аб падачы ў суд заявы аб банкруцтве ААТ "Кіруючая кампанія холдынгу "Забудова" прыняло на сходзе акцыянераў 9 сакавіка.

Таварыства бачыла ў працэсе санацыі магчымасць вярнуць плацежаздольнасць.

Кампанія вінаватая крэдыторам каля 288 мільярдаў 313 мільёнаў рублёў.

Запазычанасць па заробках і выхадной дапамозе перад работнікамі складае больш за чатыры мільярды рублёў.

У холдынгу працуе 1 357 чалавек у пасёлку Чысць.

**Даведка "РГ".** Санацыя – аздараўленне прадпрыемства-даўжніка, сістэма мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне фінансава-эканамічнага стану прадпрыемства, каб папярэдзіць яго банкруцтва ці павысіць канкурэнтаздольнасць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЛІЧБА НУМАРА

15,6 мільярда рублёў

штогод ідзе на ваенны парад

Паводле Tut.by.

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 30.04 | 7.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 14 470,00 | **14 250,00** |
| Еўра | 15 910,00 | **16 030,00** |
| Злоты | 3 960,83 | **3 990,02** |
| Расійскі рубель | 280,50 | **280,50** |
| Грыўня | 656,23 | **684,97** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 6.05** | | |
| Еўра | 15550/15860 | **15850/16100** |
| Долар ЗША | 14250/14570 | **14150/14500** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 29.04 | 6.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 25800 | **25800** |
| Свініна (вырэзка), 1 кг | 85000 | **80000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 39800 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 42800 | **45000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135000 | **118000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12900 | **12900** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18000 | **18000** |
| Маянэз, 200 г | 4800 | **4800** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 8900 | **8200** |
| Капуста, 1 кг (свежая) | 18500 | **15900** |
| Морква, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Буракі, 1 кг | 6500 | **6500** |
| Радыска, 1 кг | 22500 | **21000** |
| Лімоны, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Апельсіны, 1 кг | 19900 | **18000** |
| Мандарыны, 1 кг | 24900 | **24900** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Ківі, 1 кг | 24500 | **33000** |
| Памідоры, 1 кг | 33900 | **32000** |
| Агуркі, 1 кг | 29900 | **24000** |
| Перац, 1 кг | 54900 | **57000** |
| Вінаград, 1 кг | 39900 | **38000** |
| Бананы, 1 кг | 19900 | **19900** |
| Яблыкі, 1 кг | 13300 | **13300** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24800 | **27000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Сала, 1 кг | 80000 | **65000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

КРЫМІНАЛ

# Жонка збіла мужа

## драўлянай качалкай у Вязынцы, на раніцу ён памёр

МАЛАДЗЕЧНА

**Пасля скандалу муж лёг спаць, але раніцай ужо не прачнуўся. Каля 9 гадзін у пятніцу, 1 мая, выявілі, што мужчына мёртвы.**



Здараецца, што сваркі паміж мужам і жонкай заканчваюцца трагедыяй. На Маладзечаншчыне раззлаваная жанчына забіла мужа качалкай.

Малюнак Forum.Averia.ws.

Пра здарэнне распавёў следчы Маладзечанскага райаддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**.

36-гадовы муж і 40-гадовая жонка з Мінска праводзілі выхадныя ў доме ў Вязынцы. Падчас выпіўкі пачалі скандаліць і біцца.

– Верагодна, падазраваная не менш за пяць разоў ударыла мужа драўлянай качалкай па галаве, – гаворыць Юры Багушэвіч. – Мужчына вечарам быў жывы. А раніцай ён не прачнуўся.

Паводле судова-медыцынскай экспертызы, прычына смерці – чэрапна-мазгавая траўма, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Муж і жонка раней не судзімыя. Падазраваная затрыманая. Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па артыкуле "Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПРАКУРАТУРА

# На Мядзельшчыне большасць злачынстваў – крадзяжы

МЯДЗЕЛ

**Летась іх колькасць павялічылася на 11,2%. Колькасць крадзяжоў з жылля павялічылася з 34 да 41, махлярстваў з 1 да 4, быў крадзеж з адзення альбо з ручной паклажы.**

Сёлета ў параўнанні з леташнім на тры крадзяжы стала менш. Аднак раскрывальнасць такіх злачынстваў застаецца на нізкім узроўні.

Не знайшлі падазраваных у 14 крадзяжах. Два з трох злачынстваў у студзені-лютым не раскрылі.

Больш крадуць людзі тады, калі знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення альбо якія не працуюць ці маюць крымінальнае мінулае.

Асноўнымі прычынамі крадзяжоў з'яўляецца тое, што людзі пакідаюць рэчы без нагляду, безадказна адносяцца да іх захаванасці. Памяшканні і пабудовы суб'ектаў гаспадарання, у якіх захоўваюцца матэрыяльныя каштоўнасці, дрэнна ахоўваюцца.

### Вартаўнік баяўся падысці да павеці – адтуль скралі цяля

Сёлета з 7 на 8 сакавіка скралі цяля вагой каля 120 кілаграмаў. Цяля ўтрымлівалі пад павеццю прыкладна за 100 метраў ад малочнай фермы "Лук'яновічы". Павець не была агароджаная, асвятлення не было. Як патлумачыў вартаўнік, ноччу ён баяўся падысці туды.

Пасля гэтага здарэння парушэнні на малочнай ферме ў Лук'яновічах не выправілі. Міліцыянеры падчас рэйду знайшлі тыя ж недахопы, што і раней.

Ёсць выпадкі крадзяжоў пасля сумеснага распівання спіртных напояў. Кралі мабільныя тэлефоны, грошы, банкаўскія карткі.

### На дзвярах не было замка – скралі рэчы

У студзені супрацоўнікі Мядзельскага РАУС правялі маніторынг на сельгаспрадпрыемствах. На працоўных месцах не было вартаўнікоў, работнікі знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення, да таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў быў свабодны доступ.

Летась і сёлета былі крадзяжы з незаселеных дамоў, якія належалі ААТ "Мядзелаграсэрвіс", у аграгарадку Лук'яновічы. Першы крадзеж быў летась у прамежку часу ад студзеня да снежаня. Тады з незаселенага дома скралі два змяшальнікі для вады, унітаз, лічыльнік вады, газавы рэдуктар са шлангам, скрыню для захавання газавага балона і міжпакаёвыя дзверы. Шкоду ацанілі ў 756 мільёнаў рублёў.

Сёлета ад 30 студзеня да 22 лютага з незаселенага дома скралі ацяпляльныя радыятары. Шкода склала 598 мільёнаў рублёў.

Належнага нагляду і адказнай асобы за дамамі не было. Дзверы аднаго з дамоў не замыкаліся.

**Іван МАЛАФЕЙ,**
**пракурор Мядзельскага раёна.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Падрабязнасці аварыі ля магазіна "Рублёўскі"

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра аварыю, якая здарылася 28 красавіка, "Рэгіянальная газета" пісала раней.**

Пра падрабязнасці аварыі распавядае **Сяргей Бартош,** дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ.

За рулём зялёнага "Ровера" знаходзілася 38-гадовая жанчына-кіроўца. Яна рухалася па Вялікім Гасцінцы ў бок Смаргоні.

За рулём чорнай машыны, "Сеата", знаходзіўся 28-гадовы кіроўца. Ён рухаўся ў бок Мінска.

Тут жа, ля святлафора каля магазіна "Рублёўскі", стаяў МАЗ з кранам-вышкай. Рабочыя чаплялі ўпрыгожванні да свята.

Мужчына на "Сеаце" заняў крайнюю правую паласу, жанчына паварочвала налева.

Па яе словах, кіроўца "Сеата" значна перавысіў хуткасць і рухаўся на чырвонае святло. Яна з-за МАЗа, які перагарадзіў дарогу, не заўважыла, што машына едзе насустрач.

Мужчына ж, у сваю чаргу, сцвярджае, што гарэла зялёнае святло.

– Цяпер праводзіцца праверка, апытваюцца сведкі, вінаватыя будуць вядомыя пазней, – падсумаваў Сяргей Бартош.

**Наталля ТУР.**

ЗДАРЭННІ

## На пажары загінула жанчына

ВІЛЕЙКА

Каля пяці гадзін раніцы 3 мая вілейскім выратавальнікам паведамілі пра загаранне жылога дома ў вёсцы Лёпаўшчына Ільянскага сельсавета.

Дым у драўляным доме заўважыў унук гаспадара, якія жыве па суседстве і якраз прачнуўся.

– Ён кінуўся у дом, паспеў выцягнуць 82-гадовага дзядулю, – расказвае інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Яўген Камароў**. – У доме яшчэ заставалася бабуля. Унук спрабаваў увайсці ў дом і вынесці яе, але не змог. Была ўжо вялікая тэмпература і моцнае задымленне. Пабег да суседзяў і патэлефанаваў "101".

Па прыездзе выратавальнікі звяна газадымаабарончай службы ўвайшлі ў дом. На жаль, жанчына ўжо была мёртвая.

Прычыну пажару высвятляюць.

**Аддзел інфармацыі.**

## За тры дні – чатыры п'яныя на двух колах

ВІЛЕЙКА

Ад 3 да 5 мая ў Вілейскім раёне супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі затрымалі чатырох чалавек, якія ў нецвярозым стане кіравалі транспартам на двух колах.

П'янымі ехалі не толькі на матацыкле, але і на скутары ды мапедзе, расказаў начальнік аддзялення ДАІ Вілейскага РАУС **Віталь Навойчык**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Зменшылася колькасць крымінальных спраў за незаконны абарот наркотыкаў

ВІЛЕЙКА

Сёлета за тры месяцы на Вілейшчыне не ўзбуджалі крымінальныя справы, звязаныя з незаконным абаротам наркотыкаў, псіхатропных рэчываў і іх аналагаў. Летась за аналагічны перыяд былі чатыры такія злачынствы.

Аднак колькасць паўналетніх асоб, якія пакутуюць на наркаманію і стаяць на ўліку, застаецца тая ж, што і ў першым квартале мінулага года – 38 чалавек.

Супрацоўнікі пракуратуры Вілейскага раёна арыентуюць суд на прызначэнне жорсткіх відаў пакарання за незаконны абарот наркатычных сродкаў.

Паводле прыгавору суда Вілейскага раёна, 3 верасня 2014 года вілейчаніна 1974 года нараджэння асудзілі на дзесяць гадоў і сем месяцаў пазбаўлення волі за захаванне і перавозку асабліва небяспечных рэчываў.

Жанчыну 1984 года нараджэння асудзілі на тры гады пазбаўлення волі за захаванне наркатычных сродкаў. За падобнае злачынства 4 студзеня 2014 года суд Вілейскага раёна асудзіў жанчыну да двух гадоў шасці месяцаў пазбаўлення волі.

16 студзеня 2014 года за захоўванне наркатычных сродкаў асудзілі вілейчаніна да трох гадоў шасці месяцаў пазбаўлення волі.

**Паводле пракурора Вілейскага раёна Вадзіма ШУКРЫНАВА.**

## Грамадзянін Расіі дэманстраваў свае палавыя органы

МАЛАДЗЕЧНА

22 красавіка ў адносінах да грамадзяніна Расіі ўзбудзілі крымінальную справу за парушэнне правілаў знаходжання ў Беларусі.

Летась мужчыну высылалі з краіны, забаранілі ўязджаць сюды да кастрычніка 2015 года. Аднак з красавіка ён незаконна знаходзіўся на тэрыторыі Беларусі.

Таксама ў адносінах да мужчыны ўзбудзілі крымінальную справу за хуліганства. Мужчына дэманстраваў палавыя органы іншаму мужчыну.

Грамадзяніна Расіі затрымалі.

Згодна з заканадаўствам Беларусі, іншаземца могуць выслаць з краіны ў інтарэсах яе бяспекі, грамадскага парадку, абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабод грамадзян Беларусі і іншых асоб. Рашэнне аб высылцы прымае орган унутраных спраў ці орган дзяржаўнай бяспекі.

Іншаземца ўключаюць у спіс асоб, уезд якіх забаронены ў краіну ці непажаданы. Забарона можа дзейнічаць ад года да дзесяці гадоў.

Калі забарона на ўезд у краіну парушаная, то пагражае крымінальная адказнасць. Гэта можа быць арышт ці пазбаўленне волі да трох гадоў.

**Паводле памочніка пракурора Маладзечанскага раёна Карыны САРАЧЫНСКАЙ.**

ВОЛЬНЫ ЧАС

# Расце кардонны горад

МАЛАДЗЕЧНА

**Акунуцца ў свет творчасці, адчуць сябе будаўніком, узгадаць дзяцінства можна падчас майстравання і аздаблення кардоннага горада.**



Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ.

Майстраваць кардонны горад дапамагае Маргарыта Кісліцкая.

Яго ствараюць у межах конкурсу-фестывалю “Час жыць”.

Ідэю прапанавала **Воля Трубач**. Яна працуе ў дзіцячым цэнтры ранняга развіцця “Планета грамацеяў” і ў яслях-садзе №22.

– Аднойчы ўбачыла карцінку, на якой было дзіця ў кардонным самалёце, – расказвае Воля. – Вельмі спадабалася, вырашыла стварыць нешта падобнае.

## Будзем дарабляць у апошнюю ноч

Дзяўчына гаворыць, што галоўная праблема, з якой сутыкнулася падчас майстравання – недахоп людзей і часу.

– Калі ладзім сустрэчу па стварэнні кардоннага горада, даём аб’яву ў сацыяльных сетках, запрашаем далучыцца, – распавядае Воля. – Людзі ставяць падабайкі, а на сустрэчах тры-чатыры чалавекі. Мала часу, мяркую, што будзем заканчваць работу ў апошнюю ноч.

Як адзначае Воля Трубач, першапачаткова яны не ведалі, як будзе выглядаць кардонны горад, ідэі ўзнікаюць спантанна. Калі праклейвалі дом знутры, прыдумалі стварыць лабірынт.

Падчас працы не склейваліся бакі дамоў, майстры знайшлі рашэнне – прымацоўваюць іх стэплерам альбо скотчам.

– Пакуль не задумваліся над тым, што будзе з кардонным горадам, калі пойдзе дождж, – расказвае Воля. – Магчыма, будзем нацягваць тэнт, які абароніць ад непагадзі. Знойдзем выйсце, каб горад працаваў.

На майстраванне аднаго кардоннага дома ідзе чатыры лісты кардону, кожны 1,3 метра на 1 метр.

Творчы праект праходзіць у два этапы – канструяванне з кардону і афарбоўка акрылавымі фарбамі.

– Паводле канвенцыі аб правах дзіцяці, кожнае дзіця мае права на гульню, – расказвае Воля Трубач. – Дзеці могуць размалёўваць кардонны горад і такім чынам рэалізоўваць свае творчыя магчымасці, выказваць ідэі.

Пасля таго, як скончыцца конкурс-фестываль “Час жыць!”, Воля Трубач хоча аддаць кардонны горад у дзіцячы прытулак.

## Афішу зрабілі пад раніцу

Над афішай кардоннага горада працаваў дызайнер **Віталь Архіпаў**.

– Для афішы я выслала фотаздымак верталёта з кардона, думала, што напісаць у тэксце, – расказвае Воля. – Каля чатырох раніцы Віталь напісаў, што зрабіў афішу. Калі паглядзела, была ў захапленні.

Адна са стваральніц кардоннага горада, **Ганна Агафонава**, расказала пра свае адчуванні ад такой работы.

– Для мяне гэта магчымасць зрабіць нешта добрае, проста так, такім чынам парадаваць людзей. Раней толькі бачыла карцінкі кардоннага горада, прыемна, што цяпер магу паўдзельнічаць у яго стварэнні.

Вы можаце далучыцца да стварэння кардоннага горада, яго афарбоўкі. Кардонныя сустрэчы праходзяць у Палацы культуры.

Тэлефон для даведак: **(8-029) 535-31-05**.

**Галіна СІНІЦА.**

МОЛАДЗЬ

# На сустрэчы з уладамі моладзь звярнула ўвагу на пытанні веладарожак і працаўладкавання

МАЛАДЗЕЧНА

**Прэс-канферэнцыя моладзі з прадстаўнікамі ўлады і грамадскіх аб’яднанняў прайшла ў гімназіі-каледжы мастацтваў Маладзечна 30 красавіка.**

Пытанні гасцям падрыхтавалі прадстаўнікі абласнога моладзевага парламента, дзіцячага парламента Маладзечна і навучэнцы гімназіі-каледжа мастацтваў.

Абмяркоўвалі пытанні арганізацыі культурнага вольнага часу, аздараўленчай кампаніі, валанцёрства, добраўпарадкавання горада.

Гаварылі аб працаўладкаванні летам. Намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Людміла Кананові‌ч** распавяла, што вызначылі 330 месцаў для індывідуальнага працаўладкавання маладых людзей. На сайце райвыканкама ў раздзеле “Упраўленне па працы і занятасці” 25 мая ўжо будзе інфармацыя пра вакансіі.

Юных парламентарыяў цікавіла і пытанне неабходнасці пабудовы ў нашым горадзе веласіпедных дарожак.

– Гэта абмяркоўваецца на ўзроўні аддзела архітэктуры райвыканкама. Ідэя добрая і цікавая. Я і сама з задавальненнем села б на веласіпед і паехала, бо гэта экалагічны від транспарту, а таксама здароўе і маладосць, – пракаментавала Людміла Мікалаеўна

**Дзмітры Субцэльны**, старшыня рэспубліканскага грамадскага аб’яднання “Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА”, распавёў пра дзейнасць гэтай арганізацыі, пра новыя праекты і перспектывы для моладзі.

Нядаўна разам з Дзіцячым фондам ААН ЮНІСЕФ Беларуская Асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА запусціла першы моладзевы youtube-канал. Падлеткі могуць самі здымаць і выкладаць відэа на цікавыя ім тэмы. Маладзечанцы ўжо ўзялі ўдзел у гэтым праекце.

Дырэктар Палаца культуры, член Савета рэспублікі **Святлана Сарока** запрасіла ахвотных на бліжэйшыя мерапрыемствы: 15-17 мая ў Палацы культуры пройдзе IV конкурс-фестываль моладзевых творчых ініцыятыў “Час жыць!”, а ў верасні плануецца правядзенне фэсту “Арт-хаус”, у тым ліку і конкурсу графіці, які так спадабаўся ў мінулы раз. Напярэдадні 9 мая гаворка ішла і аб святкаванні 70-годдзя Вялікай Перамогі.

Прадстаўнікі ўлады не толькі адказалі на пытанні юных парламентарыяў, але і шукалі шляхі вырашэння агучаных праблем.

Да прыкладу, у Маркаўскім сельсавеце ёсць помнік “Сакаліная гара” – былая партызанская зямлянка. Людміла Кананові‌ч прапанавала маладым людзям глыбей вывучыць гісторыю помніка і прапанаваць, як можна яго рэстаўраваць.

Нядаўна праект “Прававы эрудыт” навучэнцаў ЦТДзіМ “Маладзік” атрымаў грант Міністэрства адукацыі і быў уключаны ў “Комплекс мер па рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў 2015 годзе”.

– Прыемна ўсведамляць, што з нашым меркаваннем лічацца, – падзяліўся ўражаннямі ад сустрэчы школьнік **Ягор Чарных**.

**Дар’я СВІРЫДА, школа журналістыкі “Маладзік”.**

МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Праграма конкурсу-фестывалю “Час жыць!”

МАЛАДЗЕЧНА

**Фестываль пройдзе 15-17 мая.**

Пачнецца моладзевым вечарам знаёмстваў, які пройдзе ў кафэ “Калумб” 14 мая ў 20:00.

### 15 мая

**11:00.** Адкрыццё фестывалю (пляцоўка каля Палаца культуры).

**12:00.** Каманднае творчае спаборніцтва.

– Каманды загадзя павінны прадумаць ідэю, выбраць матэрыялы для будучага арт-аб’екта, – расказвае кіраўнік моладзевага клуба зносінаў і творчасці “Дыялог+” Палаца культуры, арганізатар фестывалю творчых ініцыятыў “Час жыць!” **Марына Валасковіч**.

**13:00.** Валанцёрская сустрэча “Чалавек чалавеку анёл” (малая зала Палаца культуры).

**15:00.** Прэзентацыя музычнага альбома **Кацярыны Сянкевіч** “Дзевяць адценняў чырвонага” (зімовы сад Палаца культуры).

**16:00.** Сустрэча і кінапаказ з фестывалем “Далонька” (малая зала Палаца культуры).

**18:00.** Рок-выступленне (амфітэатр).

**20:30.** Прагляд фільмаў “Начны паказ” з “Перпетум мобіле” і “Паляванне за рэальнасцю” (падворак музкаледжа).

### 16 мая

**10:00-12:00.** У Палацы культуры пройдуць майстар-класы па творчасці і самаразвіцці. У малой зале – “Тры кіты публічнага маўлення”, трэнінг самапазнання “Калі жыццё – цяжкая штука” (аўдыторыя 331), арт-майстар-клас па букінаму “Мой анёл” (аўдыторыя 318), майстар-клас па акцёрскім майстэрстве “Таямніцы чалавечага голасу” (аўдыторыя 101).

**12:00-18:00.** Пляцоўка для дзяцей і бацькоў “Кардонны горад” (парк Перамогі).

**12:00.** Творчая сустрэча ўдзельнікаў літаратурнага конкурсу з беларускім пісьменнікам (малая зала Палаца культуры).

**14:30-17:30.** Конкурсная праграма, якая ўключае музычную творчасць, аўтарскую песню, тэатральныя мініяцюры, аратарскае майстэрства (канцэртная зала Палаца культуры).

**17:30.** Спектакль “Галаванога” (танцзала Палаца культуры).

**21:00.** Танцавальны флэшмоб і моладзевая дыскатэка “Неба, поўнае зорак” (пляцоўка амфітэатра).

### 17 мая

**10:00-12:00.** Трэнінг **Вольгі Плісецкай** “ЭКШН” (аўдыторыя 101 Палаца культуры). Працяг у **13:00**.

**12:00-12:15.** Музычны флэшмоб (кінатэатр “Радзіма”).

**12:30.** “Рэканструкцыя забытых гульняў” (плошча Палаца культуры).

**15:00.** Майстар-клас па кантактнай імправізацыі **Вікторыі Ігнаценкі** “Лабараторыя руху” (мастацкая школа).

**17:00.** Падвядуць вынікі фестывалю ў мастацкай школе.

Падчас фестывалю можна будзе наведаць фотавыставу “Жыццё праз аб’ектыў” у дзіцячай мастацкай школе. У бібліятэцы “Верасок” – выстава мастацкай творчасці навучэнцаў дзіцячага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. У драматычным тэатры – выстава работ **Вольгі Пяскавой**.

**Аддзел інфармацыі.**

СВЯТЫ

# У Заброддзі ладзяць акцыю памяці з крыжовым ходам

ВІЛЕЙКА

Акцыя “Дзве вайны – памяць адна” пачнецца апоўдні 9 мая на лазарэтных могілках.

У праграме – ускладанне кветак, паніхіда. Пасля крыжовы ход да каплічкі-музея. Удзельнікі сустрэнуць факел Перамогі.

Таксама будуць канцэрт, фотавыстава, гульнявая праграма для дзяцей, арт-акцыя “Мы малюем Перамогу”, выступленне патрыятычнага клуба, праца ціра, палявая кухня.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗАХАПЛЕННІ

# На што гатовы аматар стратэгічнай гульні

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанец Павел Радзюкевіч са школы зацікавіўся гульнямі варгейм. Цяпер ён марыць пра тое, каб стварыць суполку гульцоў, мадэлістаў і аматараў гульні ў Маладзечне. А калі гульцоў збярэцца дастатковая колькасць, то наладзіць і ролевыя гульні.**



Фота забяспечана Паўлам РАДЗЮКЕВІЧАМ.

Варгеймер Павел Радзюкевіч побач з мініяцюрамі.

У кожнага ўдзельніка павінны быць набор мініяцюр. Першы Павел набыў тры гады таму. Пасля захапіўся настольнымі гульнямі, пачаў вывучаць літаратуру.

## На захапленне ідзе да двух мільёнаў

– Маё зацікаўленне патрабуе шмат часу, сіл і, зразумела, грошай, – расказвае пра сваё хобі Павел Рыдзюкевіч. – Для таго, каб гуляць у настольны варгейм, трэба купіць гульнявыя мініяцюры, спецыяльныя мадэльныя фарбы, пэндзлі. Потым ідзе час на тое, каб склеіць і пафарбаваць іх.

Хлопец тлумачыць, калі ў гульца ёсць мінімальны атрад альбо невялікая армія з мадэляў, ён можа дакупляць мініяцюры раз у два-тры месяцы. Гульцы могуць выкарыстоўваць любыя мініяцюрныя персанажы.

– Першапачатковыя затраты – самыя адчувальныя, – распавядае аматар варгейма. – Мініяцюры, фарбы, пэндзлі абыходзяцца каля двух мільёнў рублёў. Ролевыя гульні менш б'юць па кашальку – гулец траціць толькі час і сілы на асваенне правілаў і стварэнне свайго персанажу.

## Умее фарбаваць – мае грошы на захапленне

Цяпер Павел – студэнт чацвертага курса інстытута сучасных ведаў імя Шырокава. Здавалася б, адкуль студэнт бярэ грошы, якія ўкладае ў зацікаўленне.

– Як гэта не дзіўна, грашмі мне дапамагае гульнявая суполка, – тлумачыць хлопец. – Я магу фарбаваць і мадэляваць фігуркі. Іншыя аматары гульні часам заказваюць роспіс мадэляў для сваіх калекцый. Гэта дапамагае кампенсаваць выдаткі на маё захапленне.

## Гульні да шасці гадзін, сотні мініяцюр на стале

Настольная гульня варгейм можа доўжыцца ад паўтары да шасці гадзін. Адна з гульняў, у якой удзельнічаў Павел, доўжылася каля сямі гадзін. Тады праходзіла адно з буйных спаборніцтваў, на гульнявым стале сутыкаліся сотні мініяцюр.

Павел стараецца планаваць час так, каб усё паспець

– Вучоба і асабістае жыццё забіраюць час, які я мог бы выдзеліць на захапленне, – расказвае маладзён. – Аднак планую час так, каб гульні не перашкаджалі вучобе і адносінам.

Дзяўчына Паўла падтрымлівае яго захапленне. Аднак сама не хоча мець такі занятак, лічыць яго вельмі складаным і працаёмкім.

## Відэагульні – спосаб вырашэння праблем

Псіхолаг Маладзечанскіх электрасетак **Таццяна Жданава** адзначае, што прывыканне дзіцяці да відэагульняў можа быць сур'ёзным сімптомам.

– Дзіця можа такім чынам шукаць выратавання ад цяжкасцяў у школе альбо напружання, якое існуе паміж членамі сям'і, – адзначае псіхолаг. – Таму важна задумацца, якая сапраўдная прычына такога зацікаўлення, і прыглядзецца да паводзін дзіцяці.

Асноўныя прыкметы залежнасці ад відэагульняў: упаданне ў стан трансу падчас гульні і напрыстае супрацьўленне, калі абмяжоўваюць час за камп'ютарам.

– Калі пасля гульняў дзіця раздражнёнае, узбуджанае альбо яго мучыць бяссонніца, гэта значыць, што час гульні перавышаны альбо гульня зусім не падыходзіць дзіцяці, – расказвае Таццяна Жданава.

**Для дзяцей 6-7 гадоў час відэагульні не павінны быць больш за 10 хвілін, для дзяцей 8-11 гадоў – 15-20 хвілін, для старшакласнікаў 25-30 хвілін.**

– Навукоўцы мяркуюць, што камп'ютарныя гульні выклікаюць залежнасць на ўзроўні з алкаголем і наркотыкамі, – адзначае Таццяна Жданава. – Так, нямецкія даследчыкі правялі эксперымент, падчас якога групе з 20 чалавек паказвалі скрыншоты з любімых гульняў. І іх рэакцыя была падобнай на тую, што і ў людзей хворых на алкагалізм альбо наркаманію, калі тыя бачылі прадмет сваёй жарсці. Падобны эксперымент правёў амерыканскі педыятр **Дуглас Джэйнтал** сумесна з акадэміяй педыятраў. Пад назіранне трапілі каля трох тысяч дзяцей. Па выніках даследавання залежнасць адзначалі ў кожнага дзясятага.

**Даведка "РГ".** Варгейм – разнавіднасць стратэгічнай гульні. Бывае настольная і камп'ютарная. У гульні імітаваныя ваенныя канфлікты як рэальныя, напрыклад, аперацыя "Барбароса", так і прыдуманыя. Правобразам варгейма была старажытная індыйская настольная гульня "Чатуранга", яе ў Сярэдняевечча і ў наш час называюць шахматамі.



Галіна СІНІЦА
8793850
@gmail.com
Skype:
sinica-galina92

### Парады, каб відэагульні не сталі звычкай у дзіцяці:

- ✓ Распрацуйце сістэму заахвочвання. Напрыклад, за выкананне працы па доме, паспяховае выкананне дамашняга задання дазваляйце згуляць у відэагульню.
- ✓ Прызначце час для відэагульняў, гэта будзе дысцыплінаваць дзіця, а вам кантраляваць яго захапленне.
- ✓ Для вяртання ў рэальнасць, рабіце перапынкі ў час гульні. Падчас іх абмяркуйце дамашнія праблемы, поспехі дзіцяці ў школе, парайце зрабіць гімнастыку для вачэй.
- ✓ Прапануйце дзіцяці запрасіць сяброў для відэагульняў.
- ✓ Падбярыце цікавыя развіццёвыя гульні, так дзіця палепшыць свой кругагляд.
- ✓ Паспрабуйце знайсці іншую крыніцу, якая б зацікавіла дзіця. Напрыклад, прапануйце заняткі ў спартыўнай секцыі альбо хадзіце разам на спартыўныя спаборніцтвы.

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ У МАЛАДЗЕЧНЕ І ВІЛЕЙЦЫ

## Ці гуляеце вы ў камп'ютарныя гульні?



**Ірына Максімчык, інжынер-праекціроўшчык:**
– Гульні дапамагаюць бавіць час. Амаль кожны дзень гуляю ў ферму: кармлю там жывёл, саджаю расліны. Гэта займае 10-15 хвілін у дзень. Адзін раз у два месяцы магу пагуляць у піражок (колобок), павука, сапёра. Для дзяцей карысныя камп'ютарныя гульні, па прынцыпе дадатку да навучання.



**Наталля Лемеш, бухгалтар:**
– Гуляю амаль кожны дзень, не больш за 30 хвілін. Люблю прыгодніцкія, лагічныя гульні. Калі падчас гульні сустракаю незнаёмыя паняцці альбо невядомыя падзеі, то шукаю інфармацыю ў інтэрнэце. Такім чынам павышаю агульную эрудыцыю і добра праводжу час.



**Наталля Коўчур, настаўніца:**
– Не гуляю ў камп'ютарныя гульні – не ўмею гэтага рабіць. Затое мой муж любіць гадзіну-другую правесці за гульнёй. Тады з задавальненнем гляджу на яго. Аднак дзецям катэгарычна забараняю ў іх гуляць. У дарослых псіхіка ўжо сфарміраваная, а з дзяцей, часам, гульні робяць зомбі-робатаў.



**Андрэй Ляшчынскі, журналіст:**
– Нячаста, адзін-два разы ў месяц. Стандартнымі гульнямі баўлю час, з сябрамі гуляю ў танчыкі і спартыўныя спаборніцтвы, каб падняць настрой.



**Дар'я Гладкая, маладая мама, Вілейка:**
– Амаль ніколі не гуляю, аддаю перавагу актыўнаму адпачынку і рэальным стасункам з людзьмі. Мне здаецца, што ад камп'ютарных гульняў людзі дурнеюць, ім складаней выказаць свае пачуцці ўслых. Моладзь праз гульні стала больш жорсткай, для іх лепш гурткі па інтарэсах.



**Наталля Ламака, студэнтка:**
– У камп'ютарныя гульні ўвогуле не гуляю. Часам, каб заняць сябе нечым, адкрываю разнастайныя прылады для гаджэтаў. А так асабліва няма часу на гульні.



**Павел Лічко, інжынер-будаўнік:**
– Я не гуляю ў камп'ютарныя гульні, гэта шкодна. Яны робяць з чалавека зомбі, ён жыве жаданнем гуляць. Для сябе выбіраю прагулку са знаёмымі ці праводжу час з каханай.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.




На сцэне старыя ваенныя песні загучалі па-новаму. Фота Юльяны Усціновіч.

● СВЯТЫ

# На канцэрце ў гонар Перамогі вучні паказалі відэакліп

МАЛАДЗЕЧНА

**Канцэртная праграма "Памятаем, ганарымся, захоўваем...", прысвечаная 70-годдзю Вялікай Перамогі, прайшла ў Лебедзеўскай СШ 25 красавіка.**

Напачатку вучні 11 класа паказалі відэапрэзентацыю "Давайце людзі ніколі пра гэта не забудзем!". Яна распавядае пра Вялікую Айчынную вайну і гісторыка-мемарыяльны комплекс "Хатынь". Прысутныя ўшанавалі памяць загінулых хвілінай маўчання.

Да канцэртнай праграмы кожны клас загадзя рыхтаваў свой нумар: абіралі песню, падбіралі касцюмы, прадумвалі пастаноўку.

Дзеці інсцэніравалі і знакамітую "Кацюшу", і "Сярожку з Малой Бронай", і пілотаў, для якіх "перш за ўсё самалёты".

Крэатыўна падышлі да задання вучні 9 "Б" класа, якія знялі відэакліп на песню "Ідзе салдат па горадзе".

Напрыканцы святочнага дня да помніка загінулым воінам і землякам усклалі вянкі, якія дзеці зрабілі сваімі рукамі.

– Мы павінны не толькі ганарыцца ветэранамі, гэтымі вялікімі людзьмі, але і браць з іх прыклад. Яны заўсёды застануцца ў нашых сэрцах, бо і жывём мы дзякуючы ім, – адзначыў адзінаццацікласнік **Юры Грымаць**.

**Юлія СТРЫГА,**
**навучэнка**
**Лебедзеўскай СШ.**

# Як перажыла вайну дзяўчына з Валожына

## З успамінаў сястры Мікалая Махнача

*Праця г. Пачатак у №№12, 13, 14, 16, 17, 18*

ВАЛОЖЫН

**Пра тое, якім было жыццё ў час акупацыі для жанчын, як ратавалі адзін аднаго і якімі страхамі і клопатамі жылі ў час вайны.**

### Коля жывы!

Прыйшла праз некалькі дзён камісія, перапісала ўсю гаспадарку – каня, карову, цяля, двух парсючкоў, пчол, запасы збожжа, дом на дзве кватэры, гаспадарчыя пабудовы.

Гаспадыня тое-сёе з вопраткі перахавала да нас, а сама паехала ў Маскву да **Шверніка**. Выявілася, што ў час рэвалюцыі яна была ў Петраградзе і працавала афіцыянткай у сталоўцы, дзе часта абедалі рэвалюцыйныя вярхі, у тым ліку і Швернік. Якім цудам яна там прабілася на прыём, невядома, але ў Валожын з Масквы прыйшла папера, дзе чорным па белым было напісана: "Снять с семьи Новаков позорное звание кулаков и вернуть изъятое имущество". Вярнулі, зразумела, не ўсё – сёе-тое камуністы паспелі прысабечыць.

Ну, і нарэшце ў нашай сям'і вялікая радасць. Наш родзіч **Хведар Грышчык** атрымаў ад майго брата ліст – Коля жывы! Божа, колькі было шчасця!

Уся наша вялікая радня радавалася, што "Кацін Коля жывы". Мы шмат пра гэта не расказвалі, але шыла ў мяху не схаваеш. Мама дзякавала Госпаду Богу, малілася раніцай і вечарам. У канцы 1947 года і мы атрымалі кароткі ліст. Коля пісаў, што жыве ў Англіі і працуе на цамянтоўні.

### Як умелі, так вучылі

Трэба сказаць, што ніхто нас у школе не прававаў. Як умелі, так і вучылі. Адзін раз на чвэрць адбывалася пасяджэнне метадычнага аб'яднання. У адной са школ нехта з настаўнікаў праводзіў адкрыты ўрок. Яго абмяркоўвалі і ставілі адзнаку. Потым былі калектыўныя заняткі па гісторыі партыі. А на завяршэнне гаспадары-настаўнікі нас частавалі.

У другой чвэрці быў адкрыты ўрок у Маршалкаўскай пачатковай школе, дзе настаўніцай была Яўгенія Белановіч. Яна ў гэтай вёсцы і жыла з бацькамі. Які там быў урок – не памятаю. Але на ўсё жыццё запомніла абед, у час якога я ўпершыню ела галубцы. Вельмі смачныя! Гэта нацыянальная страва ўкраінцаў і малдаван.




Агітацыйны плакат, прымеркаваны да выбараў у 1947 годзе.

### НКВД: віны не маю, а дрыжу

У жніўні 1946 года мяне выклікалі ў раённае аддзяленне НКВД. Яно знаходзілася ў левым будынку былога палаца Тышкевічаў.

У савецкі час слова "НКВД" на кожнага чалавека наводзіла страх. Вінаваты ты ці не, усё адно спакойна туды ніхто не заходзіў. Так і я: быццам ніякай віны не маю, а дрыжу.

Спачатку запісалі ў пратакол прозвішча, імя і гэтак далей. Першае пытанне было:

– С кем вы проживали весной 1942 года?

– С мамой и с бывшим пленным Садовниковым, которого мама привезла из концлагеря.

– Как долго он у вас проживал и куда девался?

– До марта 1942 года, а потом немцы его забрали.

– Кто приходил забирать?

– Кажется, полиция. Я их не видела, мама не разрешила мне выходить.

– Кто указал дорогу к вашему дому?

– Не знаю, не видела. Да, в амбаре ночевали два еврейских подростка. Они остались живы и ушли в партизаны.

– Это мы знаем. Но вот они указывают, что полицаев привел к вашему дому Матус.

– Не знаю, не видела.

На гэтым допыт і скончыўся.

### Выбары ў 1947-м: настаўнікі агітатары, кандыдат адзін

У лютым або сакавіку 1947 года былі выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет БССР. Колькі вялося размоў, агітацыі! Выбарчы ўчастак знаходзіўся ў Цябутах. Там было поўна начальства і міліцыі. Нас, настаўнікаў, запісалі ў агітатары, далі брашуры, каб даведаліся самі і растлумачылі іншым, што выбары ў Савецкім Саюзе – самыя дэмакратычныя ў свеце.

**Людзі паціху, дома, дзівіліся: навошта столькі шуму, калі кандыдат адзін? Само сабой яго і выберуць.**

На ўчастках былі кабінкі, але туды амаль ніхто не заходзіў, бо ўсе баяліся, каб не падумалі, што нехта супраць кандыдата.

А вясной наступнага года праходзілі выбары дэпутатаў раённага савета. Нас, увесь вясковы актыў, сабралі ў сельсавеце і пачалі тлумачыць, як паводзіць сябе, як весці агітацыю. Выдалі брашуры, дзе пісалася, што кожны грамадзянін мае права пагадзіцца або не пагадзіцца з вылучанай кандыдатурай, галасаваць за яе або прапанаваць свайго кандыдата, і г.д.

### Ад законнага права да антыўрадавай правакацыі

Прайшло некалькі дзён. Мяне ды іншую настаўніцу, якую звалі Зінай, выклікалі ў сельсавет да сакратара – усходніка **Васільева**. Ён выдаў нам два бланкі, сказаўшы:

– Дамоўцеся з дэпутатам дзесяцідворкі, няхай збярэ людзей. І на сходзе вылучыце таварыша **Турскага** кандыдатам у дэпутаты раённага савета.

Турскі да вайны быў вайскоўцам, а потым партызаніў. Яго жонку і дачку вывезлі ў Германію, але праз год яны неяк здолелі вярнуцца.

На сход сабралася мала вяскоўцаў, і то пераважна жанчыны. Вось мы з Зінай і кажам:

– Вам неабходна вылучыць кандыдатам у дэпутаты раённага савета старшыню Сугваздаўскага сельпо таварыша Турскага, каб ён бараніў інтарэсы жыхароў вёскі Сугвазды. Вы яго ведаеце.

Што тут пачалося! Жанчыны ўсчалі гвалт:

**Ён абароніць інтарэсы вёскі? Ды без ягонага дазволу ў лаўчацы не купіш кавалка мыла або шпулькі нітак ці літра газы. А дазволу не атрымаеш, пакуль не пойдзеш з ім у стог сена. Або не прынясеш хоць бы паўлітра самагонкі.**

Мы разгубіліся, але, памятаючы напісанае ў брашуры, што грамадзяне маюць права вылучаць і свайго кандыдата, пагадзіліся упісаць нейкую прапанаваную жанчыну з вёскі. Запоўнілі два бланкі пратаколаў сходу, падпісаліся самі, дэпутат дзесяцідворкі і нехта з прысутных жанчын.

Мы думалі, што ў сельсавеце перапішуць пратакол на правільны, з Турскім, мы падпішамся, дэпутат дзесяцідворкі таксама, і канец справе. Але сталася інакш.

**Сакратар сельсавета абазваў нас дурніцамі і сказаў, што бланкі толькі ў двух экзэмплярах і няма чым іх замяніць, што мы не здолелі падтрымаць кандыдатуру райкама партыі і райсавета, і што ўсё гэта прыроўніваецца да антыўрадавай правакацыі.**

Адправіўшы мяне, сакратар накінуўся на Зіну:

– Як ты магла пайсці на повадзе ў Махнач!? Яна ж тут пад акупацыяй вучылася замест таго, каб пайсці ў партызаны. У яе брат у Англіі. Ён не ваяваў у шэрагах Чырвонай Арміі, а быў у нейкай арміі, створанай подлымі капіталістамі.

Турскі быў, зразумела, зарэгістраваны ў кандыдаты. Мяне ж пакуль пакінулі ў спакоі, а Зіне ў райкаме камсамола далі добрага прачуханца. У канцы навучальнага года мяне выклікалі ў РАНА і прапанавалі ехаць вучыцца стацыянарна, бо, не маючы педагагічнай адукацыі, не магу працаваць настаўніцай.

Гэта было як быццам і правільна, але кадраў не хапала і шмат хто працаваў у школе пасля дзесяцігодкі. Я не стала пярэчыць. У Маладзечне год таму адчыніўся двухгадовы настаўніцкі інстытут, і я выбрала яго.

Уступныя экзамены здала лёгка. І вось я зноў студэнтка – факультэта беларускай мовы і літаратуры.

Валянціна СЛАБОДЧЫКАВА (МАХНАЧ), Малдова.
Заканчэнне будзе.

---

● КАЛЯНДАР

**8 мая.** 1945 год. 70 гадоў назад у Берліне падпісаны Акт аб капітуляцыі Германіі – скончылася Другая сусветная вайна ў Еўропе. 9 мая аб'яўлена Днём Перамогі над фашысцкай Германіяй.

***

**50 гадоў** з часу выхаду (1965) Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Брэсцкай крэпасці звання "Крэпасць-герой" з уручэннем ордэна Леніна і медаля "Залатая зорка" (уручаны 2 лістапада 1965 г.).

***

**10 мая.** Дзень Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь.

***

**1866 год.** Нарадзіўся Леў Бакст (сапр. Леў Розенберг, Гродна), парыжскі жывапісец і графік, тэатральны мастак, заканадаўца моды. Вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў (1883–87), у Парыжы (1893–96). У 1906–09 гадах выкладаў жывапіс у прыватнай мастацкай школе ў Пецярбургу, сярод яго вучняў – Марк Шагал. Пасля рэвалюцыі, як і многія ягоныя калегі, пераехаў у Парыж, дзе працы Бакста карысталіся вялікім поспехам, а сам ён шчасліва дажыў да старасці.

***

**11 мая.** 1855 год. 160 гадоў назад гісторык Яўстах Тышкевіч заснаваў у Вільні музей старажытнасцяў, большасць экспанатаў якога былі з Беларусі.

***

**12 мая.** 1775 год. 240 гадоў таму ў Гродне заснавана Вышэйшая медыцынская акадэмія.

***

**1833 год.** Нарадзіўся Бенядыкт Дыбоўскі (маёнтак Адамарын, цяпер Маладзечанскі раён), заолаг, прыродазнавец, доктар, публіцыст, удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў.

***

**13 мая.** 110 гадоў з дня нараджэння Стэфаніі Станюты (1905 – 2000), беларускай актрысы, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

***

**14 мая.** 1899 год. Нарадзіўся Тодар Куніцкі (в. Повязынь, цяпер Маладзечанскі раён), доктар, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага Саюза ва ўніверсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні і Беларускага сялянскага Саюза. Скончыў медыцынскі факультэт Універсітэта Стэфана Баторыя (1933), працаваў доктарам на Беласточчыне – у Гайнаўцы і Ясяноўцы, у час Другой сусветнай вайны – у Вільні. Пасля вайны пераехаў з сям'ёй у Польшчу, працаваў доктарам у Гданьску.

Марыя БЕРАСНЕВА.

ГІСТОРЫЯ

# Тыповыя лёсы жыхароў мястэчка Лебедзева ў вайну

МАЛАДЗЕЧНА

**Вайна па-рознаму змяняла людзей: кагосьці рабіла героем, а іншага нелюдзем. Суседзі, якія жылі праз плот, сябравалі, разам спраўлялі святы, раптам выяўлялі ці лепшую частку сябе, ці самую жудасную.**




Фота Антона АПАНАСЕВІЧА.

Вучні Лебедзеўскай школы стала даглядаюць помнік расстраляным і спаленым яўрэям. На здымку вучні 7 класа, якія шэфствуюць над помнікам. Злева направа Ілья Кароль, Кацярына Грыб, Паліна Бельская, Дар'я Кулеш.

## Пётр Капцюг: савецкі герой

Пасля вайны ў кожным населеным пункце быў самы заслужаны, самы знакаміты ветэран, якога ставілі ў прыклад моладзі.

У Лебедзеве такі герой **Пётр Усцінавіч Капцюг**, начальнік штаба атрада "Патрыёт" брыгады імя Будзённага. Узнагараваны найвышэйшай узнагародай – ордэнам Леніна, які атрымалі нямногія партызаны СССР.

Пётр Усцінавіч падаецца чалавекам, якому неабходна жыць у экстрэмальных умовах, змагаром па духу. Паходзіць з сялянскай сям'і з Мясаты, з дзяцінства цяжка працаваў. Служыў радавым у польскай арміі. Пасля яе актыўна удзельнічаў у падпольным камуністычным руху, асабіста ведаў аднаго з арганізатараў падполля Сяргея Прытыцкага.

За падполле Капцюга чатыры разы арыштоўвала дэфензіва, а ў 1936 годзе яго асудзілі на чатыры гады за палітычную дзейнасць на карысць СССР. Сядзеў у Лукішскай турме ў Вільні, адкуль яго вызвалілі ў 1939 з прыходам Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.

Ад першых дзён вайны яго як савецкага актывіста пераследавала гестапа. Пётр Усцінавіч спачатку дапамагаў партызанам раздабыць зброю і баявыя прыпасы, а пасля і сам партызаніў, спачатку штатным байцом, а пасля начальнікам штаба.

Двух байцоў атрада забілі ў 1941 праз здраду мясцовых жыхароў.

Паводле яго баявой характарыстыкі, ён з групай у пяць чалавек пусціў 35 эшалонаў праціўніка з людзьмі і рознай маёмасцю, парэзаў 42 кіламетры лініі сувязі. У розных аперацыях знішчылі 414 чалавек і 615 ранілі.

Паводле дакумента, ад шасці партызан пацярпела тысяча фашыстаў.

Яго сын **Уладзімір** прыгадвае, што ў бацькі часта балелі ногі. Прыступы былі такія моцныя, што скручвала ногі і ветэран падаў на зямлю, але цярпеў. Турэмнае зняволенне, рэйды па балотах, паўгаладнае жыццё ў зямлянках, начоўкі на сырой зямлі пад адкрытым небам моцна адбіліся на здароўі. Выхаваў разам з жонкай Марыяй Піліпаўнай шасцярых дзяцей. Жыў небагата, але ніколі не хадзіў па кабінетах, каб выбіваць ільготы.

Як адзначаюць знаёмыя, пра вайну ён узгадваць не любіў, але і нельга сказаць, што знайшоў сябе ў мірным жыцці. Загадваў млыном у мясцовым калгасе. У 1975 годзе пайшоў з жыцця.

## Станіслаў Жвірко: жаўнер арміі Андэрса

Калі адна частка нашых землякоў у складзе Чырвонай Арміі змагалася за перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне на ўсходнім фронце, то іншая далучылася да арміі генерала Андэрса і змагалася супраць фашызму ў Італіі.

Паводле спіса Цэнтральнага архіва ў Варшаве, у месяцца рэчы **Станіслава Жвірко** 1917 года нараджэння з вёскі Лебедзева. У гэтым спісе пазначаны жаўнеры, якія загінулі ў баях, а іх рэчы захоўваюць, каб перадаць сваякам.

Пасля вайны салдатаў не Чырвонай Арміі не лічылі ветэранамі. Да іх было нават варожае афіцыйнае стаўленне, як да тых, хто змагаўся ў шэрагах капіталістычнага фарміравання. Закон, паводле якога байцоў Войска Польскага, і ў прыватнасці арміі Андэрса, прыраўнялі да ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, прынялі толькі ў 1993 годзе.

## Бацька ратуе партызана, сын паліцай

Ад 1941 да 1942 у Лебедзеве быў лагер для ваеннапалонных. У ім трымалі каля 300 чырвонаармейцаў. Мясцовыя дапамагалі згаладалым палонным. З дазволу начальства лагера перадавалі прадукты. Лепшыя забіралі немцы, астатняе аддавалі салдатам.

Мясцовы святар айцец **Нядвецкі** прасіў вернікаў дапамагаць палонным. Спачатку іх выкарыстоўвалі як рабочую сілу. Але у цеснаце, галодныя, без медыцынскай дапамогі, яны моцна аслаблі. У пачатку зімы многія памерлі. На праваслаўных могілках выкапалі яму, куды скідалі целы і доўга яе не закопвалі: новыя памерлыя з'яўляліся штодня.

У лютым 1942 года за адну ноч акупанты расстралялі 220 чалавек. Ёсць дзве версіі прычыны: па адной, стала шмат хворых на тыф, па другой, справа ў выпадку. Нібыта адзін зняволены кінуў у патыліцу ахоўніку вош, а другі пра гэта распавёў немцу. Пасля масавага расстрэлу чырвонаармейцаў лагер спыніў працу.

Лебедзевец **Баляслаў Блін** змог выратаваць аднаго з палонных. Адным зімовым ранкам, яшчэ зацемна, ваенны фельчар ехаў на кані па сена на Ушу. Калі праязджаў каля лагера, да яго падбег паранены ў плячо чырвонаармеец у адной бялізне і папрасіў выратаваць. Баляслаў паклаў яго ў сані і схаваў у сене. У Мароськах аказаў медыцынскую дапамогу. Хворага перавезлі да іншага надзейнага аднавяскоўца. Папраўўшыся, салдат пайшоў у партызанскі атрад. Фельчар Баляслаў рызыкаваў жыццём, каб выратаваць чырвонаармейца.

А яго сын **Франц** у час вайны быў паліцаям, у 1944 годзе ўцёк разам з немцамі.

## Першы і апошні ліст салдата

Каля Лебедзева, як і любога іншага беларускага мястэчка, у вайну было шмат смерцяў: партызаны, гета, лагер для ваеннапалонных. Для многіх смерць прыйшла ў дом.

У музеі лебедзеўскай школы сярод экспанатаў ёсць два дакументы. Першы – ліст з фронту родным з пазнакай "першы і апошні": "19 ліпеня 1944 г. **Крэнць Павел** жывы, здаровы. Знаходжуся ў Чырвонай вызваленчай Арміі. Дасылаю свой нізкі паклон жонцы Ганне, сыну Пецьку, брату Якаву. Нізка кланяюся, жадаю жыць на многія лета".

Другі – паведамленне з Маладзечанскага райваенкамата пра тое, што Крэнць Павел у кастрычніку 44-га падчас бою знік без вестак.

## Галакост: ні крыку, ні плачу

Як і ў іншых беларускіх мястэчках, значнай часткай жыцця, і ў прыватнасці эканомікі, былі яўрэі. Да вайны большасць гандлёвых і гаспадарчых аб'ектаў належала яўрэям, якія вялі справы эфектыўна. Іх узгадваюць як добрых суседзяў і сяброў.

У ліпені 1941 года немцы арганізавалі гета каля сучаснага касцёла па вуліцы Зарэчнай. У ім пасялілі каля 700 чалавек – пераважна жанчын, дзяцей і старых, прымусілі насіць жоўтую шасціканцовую зорку. Маладыя яўрэі, у асноўным, пакінулі мястэчка, каб ваяваць ці партызаніць.

24 чэрвеня 1942 года здарылася трагедыя. Каля трох гадзін раніцы карнікі разам з паліцыяй акружылі гета, дзе было каля 600 чалавек. Сказалі, што вядуць на работу. За некалькі дзён да гэтага паліцаі праз знаёмых папярэджвалі, што фашысты рыхтуюць расправу, але з гета збеглі нямногія.

**Людзі моўчкі ішлі на смерць, не было чуваць ні крыку, ні плачу. Канваіравалі іх толькі восем чалавек службы бяспекі. Паспрабаваць уцячы было магчыма: абапал дарогі былі кусты, поле, за якім лес, але ніхто шанц не скарыстаў.**

За вярсту ад Лебедзева, каля гумна жыхара Субача, іх чакала наступная група карнікаў. Яўрэяў расстрэльвалі групамі, зрабіўшы сапраўдны канвеер смерці. Жывых скідвалі мёртвых у кучу, якую немцы палівалі газай. Калі расстралялі ўсіх, гумно падпалілі. Некаторыя былі толькі параненыя, яны выскоквалі ў шоку як факелы, але іх тут жа расстрэльвалі.

Мясцовыя дзеляцца, што было не столькі страшна, колькі прыкра, што не можаш дапамагчы. Пах ад спаленых людзей быў чутны каля месяца.

У час аблавы немцы знайшлі яўрэйскага хлопчыка, які схаваўся пад падлогай пажарнага барака. Моцна прасіў пашкадаваць, але забілі і яго. Вазіў забітых на яўрэйскія могілкі **Вітольд Гружэўскі**, які пасля доўга лячыўся ад нервовага зрыву.

## Туфлі з сарочкай і рэшата

У гэтых абставінах мясцовыя паводзілі сябе па-рознаму. Большасць так, як **Павел Посах**. У час аблавы ён заўважыў каля свайго надзела свежую сцяжынку, якая прывяла да яўрэйскай сям'і. Павел загадаў дачце збегаць па ежу, якую аддаў яўрэям. Калі гаспадар сям'і перадаў у падзяку гадзіннік, Павел спыніў яго: "А навошта?"

Дапамогу яўрэям не лічылі геройствам, пра гэта наогул небяспечна было гаварыць, бо маглі расстраляць усю сям'ю. Але многія лебедзеўцы жылі па сумленні нават пад пагрозай смерці.

Адна маладая яўрэйка **Бэйнісан** уцякала ад фашыста праз жыта. Каб хутчэй бегчы, скінула сарочку і туфлі. Немец параніў жанчыну, але яна змагла ўцячы. Пасля вайны вярнулася ў Лебедзева. Але нікога з родных яе не засталося. Адна з мясцовых **Марыя Шчапанская** аддала ёй туфлі і сарочку, якія захоўвала некалькі год.

У вайну былі і марадзёры. Як толькі гета апусцела, усё каштоўнае яны пазабіралі. Знайшліся і тыя, хто перасыпаў прах спаленых людзей рашотамі, каб знайсці каштоўнасці.

Іншы мясцовы, каб выслужыцца перад немцамі, стрэліў у яўрэя-інваліда. Убачыў, што не забіў, пабег за патронамі, вярнуўся і выстраліў у галаву.

Калі немцы гналі да Лебедзева мужчын, у тым ліку яўрэяў, **Міхаіл Кахаsucceedоўскі** з Дамашоў стаў на калені і прасіў адпусціць палонных. Фашысты загналі Міхаіла разам з іншымі ў хлеў і спалілі. Дома ў яго засталіся дзве малыя дачкі, жонка памерла пры родах. Сірот забрала цётка **Людміла Станевіч**.

Гісторыя Лебедзева ў вайну тыповая для мноства вёсак і гарадоў Беларусі. Лёсы мясцовых паўтараюць лёсы тысяч. Мы ўзгадалі, якой была вайна для беларусаў-заходнікаў праз успаміны і дакументы.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ паводле даследчых работ настаўніка гісторыі Лебедзеўскай школы Антона АПАНАСЕВІЧА.**




Ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Рыгору Чавялёву цяпер цяжка рухацца і гаварыць. Ён франтавік. Ваяваў на 1-м Украінскім фронце.

# Ён не хадзіў па школах і рэдка казаў пра вайну

МАЛАДЗЕЧНА

**У шафе Рыгора Чавялёва няма кіцеля. Медалі ляжаць у кардоннай каробцы. Амаль кожны запакаваны ў асобны пакецік.**

– Рыгор Афанасевіч сам запакаваў кожны медаль, калі яшчэ мог, – кажа жонка ветэрана **Тамара Еўдакімаўна**.

Унук, а не дзядуля-ветэран, часам чапляў іх на сябе і гуляў у вайну.

Пра гэтую сям'ю, дзе жыве 88-гадовы ветэран, распавяла іх суседка. Завітаем да Чавялёвых без папярэджання.

– Заходзьце, калі ласка, – кажа Тамара Еўдакімаўна, быццам нас чакала.

Напярэдадні свята 9 мая ў іх невялікай кватэры бывае шмат людзей. Нечаканым гасцям не здзіўляюцца.

– То са школы восьмай прыйдуць, то ўнукі завітаюць, то сын, то з былой працы мужа зойдуць, – распавядае жанчына. – Са школы на 23 лютага сямёра вучняў прыйшло!

Размаўляем з ёй. Рыгору Афанасевічу цяжка рухацца. Ён амаль увесь час на ложку. Гаварыць таксама цяжка. Часам спадарыня Тамара падыходзіць да яго, каб удакладніць дэталі.

– Калі з працы пайшоў? – пытаецца.

Пачуўшы адказ, удакладняе:

– 30 красавіка 1996 года?

Дагэтуль 21 год ён адпрацаваў у маладзечанскай газавай службе. А перад гэтым – служыў у войску.

Пра ваенны шлях нашага героя мы так і не даведаліся. Тамара Еўдакімаўна адмахваецца:

– Не ведаю, мы ніколі пра вайну не гаварылі. Я не пыталася, а ён не расказваў. Сын толькі распытваўся, але два гады таму яго не стала.

У Маладзечна сям'я Чавялёвых прыехала ў 1969 годзе. Рыгор Афанасевіч нарадзіўся на Разаншчыне, Тамара Еўдакімаўна – з Кубані.

Жанчына распавядае, што ўнук знайшоў праз інтэрнэт дом, дзе яна жыла, калі была дзяўчынай. Звязаліся з цяперашнімі гаспадарамі.

– Ой, так няёмка, – перарывае тэму гаспадыня, – у мяне так часнаком пахне. Я пельмені паставіла варыць. Зараз выключу газ.

Да тэмы пра радзіму так і не вярнуліся, у кватэру пазванілі.

Прыйшла супрацоўніца гаргазу павіншаваць Рыгора Афанасевіча са святам. І хаця Тамара Еўдакімаўна сказала, што перадасць мужу віншаванні, жанчына падышла да ложка, нахілілася да самага вуха ветэрана і сказала: "Са святам вас, здароўя. Дзякуй за Перамогу". Рыгор Афанасевіч ледзь заўважна кіўнуў.

– Мы з Рыгорам раней заўсёды на свята Перамогі ў парк хадзілі. Любіць ён гэта свята.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

## Магілу воіна дапамаглі знайсці інтэрнэт і віляйчане

ВІЛЕЙКА

**Напярэдадні 9 мая жыхарка расійскага горада Волагда Таццяна Какоўкіна выканала мару сваёй мамы. Тая ўсё жыццё хацела ўбачыць магілу брата, які не вярнуўся з вайны. Ён загінуў пры вызваленні Вілейкі ў 22 гады.**



Георгі Лапаткін загінуў пры вызваленні Вілейкі.

– Для маёй мамы Георгі Лапаткін быў любімым старэйшым братам. Мы з дзяцінства ведалі, што ён загінуў на вайне, – дзеліцца Таццяна. – Мамы няма з 1977 года. Заўсёды памятала яе мару – убачыць магілку брата. Цяпер, у камп'ютарнае стагоддзе, вырашыла ажыццявіць мару мамы.

На сайце "Подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне" Таццяна знайшла патрэбную інфармацыю. Там змешчаныя дакументы аб узнагароджанні камандзіра аддзялення сувязі батальёна аўтаматчыкаў 35 Гвардзейскай танкавай брыгады Георгія Лапаткіна ордэнам Айчыннай вайны другой ступені за вызваленне Вілейкі.

– Падумала: ёсць жа добрыя людзі, дапамогуць. І не памылілася ў беларусах. На адным з вілейскіх сайтаў (верагодна, сайт райвыканкама – аўт.) знайшла падрабязную інфармацыю аб вайсковых пахаваннях са спісамі. Гонар і хвала за такую працу!

Даведалася Таццяна, што гвардыі старшы сяржант Георгі Лапаткін пахаваны на гарадскіх могілках па вуліцы 1 Мая.

У сацсетцы "Вконтакте" зайшла наўздагад у адну з груп, у назве якой было "Вілейка". Напісала адміністратару Андрэю Комліку. Той адказаў, што здымкі зробіць Георгі Комар. Хутка атрымала ад яго фатаграфіі помніка на могілках. Высечана на ім і прозвішча дзядзькі.

– Вялікі дзякуй усім! – працягвае Таццяна. – Сумна, што мая мама не дажыла і не пабачыла магілу свайго любімага брата. Мой дзядзька Георгі склаў галаву за далёкі ад нас горад. Яго маці, мая бабуля, Таццяна Лапаткіна, працавала, не пакладаючы рук, у далёкім тыле. А яшчэ адзін яе сын, старэйшы, вярнуўся з вайны інвалідам. І так, напэўна, было ў многіх сем'ях...

**Урывак з узнагароднага ліста**

"1.07.44 у баях за горад Вілейка тав. Лапаткін пасланы ў разведку для вызначэння агнявых пунктаў праціўніка і годна выканаў заданне. Дзякуючы яму агнявыя пункты былі хутка накрытыя нашым артагнём, і пяхота без асаблівых страт авалодала горадам. У канцы бою за горад Вілейка быў забіты пры выкананні задання па сувязі з суседзямі".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КОНКУРСЫ

## Следапыты ў горадзе і "акопны" бутэрброд

МЯДЗЕЛ

**У мінулы чацвер у Мядзеле частавалі "баявым" куляшом і разгадвалі зашыфраваныя пасланні. Гэта праходзіў першы на Мядзельшчыне квэст. Прымеркавалі яго да 70-годдзя Вялікай Перамогі.**

Прынялі ўдзел пяць камандаў моладзі з устаноў і сельсаветаў Мядзельшчыны. У кожнай было да сямі чалавек, а да іх яшчэ і кансультанты.

Рыхтавацца ўдзельнікі пачалі яшчэ задоўга да 30 красавіка. На першым этапе, краязнаўчым, збіралі матэрыял аб земляках-удзельніках Вялікай Айчыннай вайны.

А 30 красавіка прайшоў другі этап. У Мядзельскім Доме культуры каманды расказвалі пра сябе, абаранялі сабраны краязнаўчы матэрыял.

Потым былі розныя конкурсы. У артыстычным удзельнікі чыталі вершы і спявалі песні часоў вайны. У літаратурным конкурсе вызначалі літаратурных і кінагерояў, у спартыўным – дэманстравалі навыкі маладога байца. У гістарычным трэба было адказаць на безліч пытанняў па падзеях Вялікай Айчыннай вайны

Самым эмацыйным, бадай, быў конкурс следапытаў. Удзельнікі мусілі па вершаваных радках расшыфраваць памятныя месцы ў горадзе і па-за ім. Хутчэй дабрацца да іх, ускласці кветкі і атрымаць новае заданне.

Апошнім быў самы смачны конкурс – дэгустацыйны. На ім вызначалі лепшую страву часоў Вялікай Айчыннай вайны. Таму калі каманды бутэрброд рабілі, то "акопны", калі гарбату гатавалі, то з чарніц і мацярдушкі. І саладзілі яе, як у вайну – сушанай морквай. У санаторыі "Прыазёрны" прыгатавалі страву па рэцэпце ветэрана Вялікай Айчыннай вайны аўтара "РГ" **Міхася Чарняўскага**.

Першае месца ў квэсце падзялілі каманды цэнтра "Зубраня" і аддзела адукацыі, спорту і турызму. На другім – прадстаўнікі санаторыя "Прыазёрны". Узнагароды прымалі не толькі пераможцы – прызамі адзначалі ўсе каманды.

**Даведка "РГ". Квэст** – інтэлектуальна-экстрэмальны від гульняў на вуліцах горада і за яго межамі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У рэгіёне засталося 280 удзельнікаў вайны

**Мы параўналі дадзеныя 2013 года з сёлетнімі, каб паказаць, што з кожным годам ветэранаў становіцца ўсё менш.**

Таму, калі побач з вамі жыве ветэран, не забудзьцеся 9 мая павіншаваць яго з Днём Перамогі.

ВАЛОЖЫН. У 2013 годзе на Валожыншчыне жыло 89 ветэранаў. У 2015 годзе тут жыве ўжо 33 удзельнікі вайны.

СМАРГОНЬ. У 2013 годзе жылі 72 чалавекі. У 2015-м іх засталося толькі 23.

АШМЯНЫ. У 2013 годзе ў Ашмянскім раёне жылі 33 ветэраны. Сёлета ўдзельнікаў вайны засталося 19 чалавек.

АСТРАВЕЦ. У Астравецкім раёне ў 2013 годзе жыло 13 удзельнікаў вайны. У 2015 – 8 чалавек.

МЯДЗЕЛ. У Мядзельскім раёне ў 2013 годзе жыло 40 удзельнікаў вайны. У 2015 годзе засталіся 43 чалавекі.

ВІЛЕЙКА. У Вілейскім раёне ў 2013 годзе жылі 124 ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, цяпер гэтая лічба скарацілася да 47 чалавек, удзельнікаў вайны.

МАЛАДЗЕЧНА. У Маладзечанскі раёне ўдзельнікаў вайны было 348 чалавек. Цяпер іх 107.

**Наталля ТУР.**

АСОБА

# Павел Бяганскі: "Маладзечна крыху выбіла з мяне вёску"

**Пра роднае Людвінова, маладзечанскі футбол і знаёмства з багатым унутраным светам тэлевізараў успамінае вядомы футбаліст Павел Бяганскі.**



Фота tribuna.by.

Павел Бяганскі не саромеецца свайго вясковага паходжання.

**– Як вы ўвогуле патрапілі ў рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву?**

– Выпадкова. Абсалютна выпадкова. Сам я з-пад Вілейкі. Вёска Людвінова. Кажуць, жыў у нас там пан Людвіг. Вось у гонар яго і назвалі. Насельніцтва маленькае – да тысячы жыхароў. Я толькі ў 13 год пачаў у футбол гуляць арганізавана. Ну, там – чэмпіянат раёна і г.д. Каманда ў нас называлася "Зверасаўгас".

У часы СССР у Людвінове працавала адна з найбуйнейшых зверафермаў. Вырошчвалі пясцоў, ліс, норак. Як цяпер памятаю, чэргі з 10-15 літоўскіх фур за шкуркамі. Гэта адбывалася зімой, калі ішоў забой звера. Маці працавала брыгадзірам.

Каб ты разумеў, дапусцім, была тысяча галоў лісіц і тысяча пясцоў. Футра лісы, дарэчы, лічыцца больш каштоўным. За звярамі даглядалі спецыяльна навучаныя людзі. Мама кантралявала іх працу. Бацька працаваў там жа – кіроўцам. Ужо 40 гадоў стажу. Зараз, праўда, ферму пахерылі. Можа, засталіся тры лісіцы і два пясцы для выгляду – і ўсё.

### "Ідзі наперад, пабегай там"

Увогуле, гулялі на чэмпіянаце раёна. І вось аднойчы да нас прыехаў трэнер з Маладзечна – **Аляксандр Пятровіч Гармаза**. Ён выступаў у складзе сапернікаў. А я стаяў у варотах за Людвінова. Маладзечна тады якраз збіралася на чэмпіянат вобласці. І ў іх варатар зламаўся. Так Гармаза прапанаваў мне далучыцца. Я пагадзіўся. Па-мойму, у Жодзіне мы тады гулялі. Па прыбыцці аказалася, што з варатаром усё нармальна. Тады Гармаза махнуў рукой: "Ай, раз узялі цябе, дык ідзі наперад, пабегай там".

**Я сходзіў. У першай гульні тры забіў. У другой – чатыры. Гармаза задумаўся: "Малыш, чуеш што, давайка ты перавядзешся ў Маладзечна". А я якраз заканчваў дзявяты клас.**

### "Пакажы мне зараз разварочаны тэлевізар, я яго, напэўна, спужаюся"

Гармаза абяцаў дапамагчы з паступленнем у вучэльню і інтэрнатам. Але я сваімі сіламі справіўся. Нікому не тэлефанаваў. Павінны быў стаць майстрам па рамонце тэлевізараў, а аказаўся футбалістам. Год пражыў у Маладзечне. Хадзіў у вучэльню і трэніраваўся.

Шчыра, нас нічому асабліваму не вучылі. Толькі раз у два тыдні збіраліся ў аўдыторыі, дзе дзядзечка тлумачыў дзікія формулы, каб было зразумела, з чаго складаецца схема і як яна працуе.

Увогуле, распавядаў пра багаты ўнутраны свет тэлевізараў. Тады плоскіх манітораў яшчэ не было. Вось і вывучалі, як працуюць усякія лямпы напальвання і іншае. Тая вучоба толкам нічога не дала. Пакажы мне зараз разварочаны тэлевізар, і я яго, напэўна, спужаюся.

Футболам я цікавіўся больш. І вось неяк сустрэліся з юнацкай зборнай нашага ўзросту. Яе трэніраваў **Юрый Антонавіч Пышнік**. Па завяршэнні матча Пышнік падышоў да трэнера Маладзечна: "А што гэта ў цябе за палка наперадзе бегае?" – "Ну, вось, бегае". Потым Антонавіч звярнуўся да мяне: "У РВАР хочаш?" А я вясковы хлопец у поўным разуменні. Абсалютная сяло. Па-першае, школы ніякай. Ні спыніць, нічога. Шчыра, я даведаўся, што такое "жангліраваць" толькі ў Маладзечне. Дрэва проста. Але бег, што не спыніць.

**Па-другое, "кагочаго" – па жудасці гэкаў. Мог спартыўныя штаны з класічнымі чаравікамі надзець. Маладзечна, безумоўна, крыху выбіла з мяне вёску. Хоць я ніяк не саромеюся свайго паходжання. Ды і цяпер жыву ў маленькім горадзе.**

Мне было прыемна запрашэнне Пышніка, і я хацеў у Мінск. Прыехаў дадому, патлумачыў сітуацыю бацькам. Мама ў слёзы: "Не пушчу!" Бацька кулаком па стале плясь: "Няхай едзе!" Так я і трапіў у РВАР. Яшчэ чатыры гады – і перабраўся ў БАТЭ.

Паводле Мікіты МЕЛКАЗЁРАВА, by.tribuna.com

**Даведка "РГ".** Павел Бяганскі – беларускі футбаліст. Нарадзіўся 9 студзеня 1981 года ў Людвінове на Вілейшчыне. Футбольную кар'еру пачаў у Маладзечне, у ДЮСШ. Выступаў за БАТЭ, МТЗ-РІПА, "Шахцёр" і іншыя беларускія клубы. Гуляў у Казахстане, Румыніі, на Украіне. Цяпер гуляе за "Днепр" з Рагачова ў другой лізе чэмпіянату Беларусі па футболе.

ФУТБОЛ

## Маладзечна абыгрывае Асіповічы ў першай гульні чэмпіянату Беларусі-2015

МАЛАДЗЕЧНА

**У першым туры чэмпіянату маладзечанцы атрымалі перамогу ў гасцях у Асіповічаў з лікам 1:0.**

Сілы сапернікаў былі, мяркуючы па ходзе матча, роўныя. Пра гэта і гаворыць паўабаронца каманды "Маладзечна ДЮСШ-4" **Сяргей Лавор**.

Вырашыць, хто мацнейшы, у маладзечанцаў атрымалася бліжэй да канца другога тайма. Каманда Асіповічаў была пакарана пенальці за тое, што гульца "Маладзечна ДЮСШ-4" **Аляксандра Парфёнава** ўдарылі па нагах. Рэалізаваў пенальці амаль у канцы другога тайма Сяргей Лавор.

У гэты ж дзень каманда з Ашмянаў, дэбютант другой лігі, перамагла каманду са Жлобіна з лікам 2:0, – піша сайт football.by.

Наступны матч маладзечанцы сыграюць супраць каманды са Ждановічаў. Гульня адбудзецца на гарадскім стадыёне 9 мая.

Наталля ТУР.

НАВІНЫ

### У матчы "Смаргонь" – "Іслач" галоў не было

СМАРГОНЬ

У трэцім туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе "Смаргонь" 3 мая сустракалася дома з "Іслаччу".

Матч завяршыўся безгалявой нічыёй 0:0.

– Гэта была гульня з лідарам – адной з каманд, якая будзе змагацца за павышэнне ў класе па выніках сезона, – кажа прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – Атрымалася якасна згуляць у абароне і не дазволіць саперніку стварыць ні найменшага шанца.

Галоўны трэнер "Іслачы" **Віталь Жукоўскі** ў пасляматчавым каментары ацаніў саперніка як "кваліфікаванага":

– Каманда сапернікаў моцная, кампактна гуляла ў абароне. Не дазволілі стварыць шмат момантаў і даводзілася ствараць свае пасля стандартаў.

– Думаю, і мы, і "Іслач" павінны быць задаволеныя вынікам, – сказаў галоўны трэнер "Смаргоні" **Мікалай Рындзюк**. – Былі моманты і ў нас, і ў саперніка, але ў цэлым лічу, што была роўная гульня годных сапернікаў.

Пасля трох тураў "Смаргонь" мае пяць ачкоў і займае ў турнірнай табліцы шостае месца.

### "Вілія" фінішавала пятай

СМАРГОНЬ

Смаргонская "Вілія" заняла пятае месца ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе ў вышэйшай лізе. У апошнім туры каманда "Цэментнік" не прыехала на матч у Смаргонь. Ёй залічылі тэхнічнае паражэнне 0:5. Праўда, матч у размеркаванні месцаў нічога не вырашаў: усё роўна сапернікі не абышлі б у турнірнай табліцы той жа "Цэментнік".

"Вілія" набрала 21 ачко. Столькі ж – і "Цэментнік". Аднак ён па дадатковых паказчыках заняў чацвертае месца. "Вілія" – на пятым.

### Тры каманды з рэгіёна стартуюць у чэмпіянаце вобласці

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

На гэтых выхадных стартуе чэмпіянат Мінскай вобласці па футболе. Удзельнічаюць у ім 14 камандаў. Сярод іх тры з нашага рэгіёна: "Вілія" з Вілейкі, ДЮСШ-4 з Маладзечна і "Забудова-Буд" з Чысці.

У першым туры 10 мая ДЮСШ-4 згуляе з "Віліяй", а " Забудова-Буд" прыме "Зорку" з Пухавіцкага раёна.

### Пачаліся гульні на Кубак

ВІЛЕЙКА

Першыя гульні Кубка Вілейскага раёна па футболе прайшлі 28 і 30 красавіка. "Буддэталі" абыгралі "СДЮШАР-Зеніт" 3:0, "Мехатроніка" адолела "Чурлёны" 2:1. "Першы Беларускі" быў мацнейшы за "Гармалзавод" 4:2, "Чурлёны" выйгралі ў "Шылавіч" 2:0, паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

У спаборніцтвах удзельнічаюць сем камандаў. Згуляюць яны па кругавой сістэме. Потым дзве лепшыя сустрэнуцца у фінальным матчы.

### Стартаваў турнір па міні-футболе

ВІЛЕЙКА

У райцэнтры 26 красавіка стартаваў традыцыйны турнір па міні-футболе. Сёлета ў ім гуляюць 16 камандаў. Летась – было 18.

Каманды падзеленыя на чатыры групы. У наступную стадыю з кожнай выйдзе па дзве лепшыя каманды, якія працягнуць барацьбу за перамогу.

Гульні праходзяць на пляцоўцы з сінтэтычным пакрыццём у сярэдняй школе №1.

Пасля двух гульнявых дзён у групах вызначыліся лідары. У групе "А" гэта "Буддэталі", "Б" – Рубін", "В" – "Першы Беларускі", "Г" – "Юніёр". Яны ўжо забяспечылі сабе месца ў чвэрцьфіналах, расказаў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан**.

### Вілейскія плыўцы сталі прызёрамі на вобласці

ВІЛЕЙКА

17 красавіка ў Маладзечна прайшло адкрытае першынство Мінскай вобласці па ратаванні на водах і плаванні брасам.

Яно складалася з двух самастойных этапаў: ратаванне на водах і спаборніцтвы па плаванні брасам (дыстанцыя 50 метраў).

І на першым, і на другім этапе каманда Вілейскага раёна была другой. У яе склад увайшлі **Сяргей Міхайлаў, Аляксей Смолік, Яўген Маліноўскі, Ілля Буракоўскі** і **Ягор Яхімовіч**.

У асабовым заліку на першым этапе перамог **Яўген Маліноўскі**. На другім этапе **Ягор Яхімовіч** быў трэцім.

Пра гэта распавяла інспектар групы прапаганды і навучання Вілейскага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Надзея Літвіновіч**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

Маленькаму маладзечанцу Мірону два гады і два месяцы. На фота ён збірае ў двары дзьмухаўцы.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Бывай, канферансье!**" (спектакль-канцэрт), *Рыгор Горын*
12 мая, аўторак, – 19:00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
14 мая, чацвер, – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**

*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by

УНП 600066659

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2 | | 8 | | | | 9 | |
| | | 3 | 5 | | | | | 1 |
| | 1 | | | | 9 | | 2 | |
| 2 | | | | 7 | 4 | | | |
| 6 | | | | | | | | 2 |
| | | | 6 | 9 | | | | 5 |
| | 3 | | 9 | | | | 4 | |
| 8 | | | | | 3 | 1 | | |
| | 9 | | | | 8 | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (Вялікабрытанія, Францыя, 2015, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – у 12:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Дом**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
10 мая – у 12:20 Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, фантастыка "**Поўнае пераўтварэнне**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 мая – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, фантастыка, трылер "**Запрашаем у рай**", (ЗША, 2014, з 16 год)
11 мая – у 17:30 Цана білета: 45 000 рублёў

Баявік, фэнтэзі "**Мсціўцы: Эра Альтрона**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
8, 9 мая – у 19:00
10 мая – у 21:00
12 мая – у 18:00 Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя "**Адной левай**" (Расія, 2015, з 16 год)
8, 9 мая – у 22:00 (50 000 рублёў)
10 мая – у 19:00
11, 14 мая – у 21:30
13 мая – у 21:00 Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Звар'яцелы Макс: Дарогі лютасці**" (3D, Аўстралія, 2015, з 16 год)
14 мая – у 19:00 Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Бабай**" (Украіна, Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
8 мая – у 18:00
9 мая – у 14:00
10 мая – у 16:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, 2012, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – у 15:30
10 мая – у 17:30 Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – у 17:30
10 мая – у 14:00 Цана білета: 20 000 рублёў

Дакументальны фільм "**Спакушэнне д'ябла**" (Беларусь, 2015, з 16 год)
8, 10, 12 мая – у 21:30
11, 14 мая – у 21:00
13 мая – у 19:30 Цана білета: 3 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
13 мая – у 21:30 Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Ваенная драма "**Снайпер. Апошні выстрал**" (Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
9, 10, 12 мая – у 19:30
14 мая – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Кухня ў Парыжы**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
8 мая – у 19:30
9 мая – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Вядзьмарка**" (Расія, 2006, з 16 год)
8, 10, 12 мая – у 21:30
11, 14 мая – у 21:00
13 мая – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92**, **77-06-30**

***Да 70-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне***

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія...**" (3D, Расія, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
9 мая – у 14:30
10 мая – у 16:30
13 мая – у 18:30 Цана білета: 55 000 рублёў

Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (Расія, 2015, 14 год у суправаджэнні дарослых)
8, 9, 14 мая – у 17:00
10 мая – у 14:30
11 мая – у 19:30 Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя "**Лыжка для салдата**" (Беларусьфільм, 2015, без узроставых абмежаванняў. Яго будуць паказваць перад фільмам "Дарога на Берлін")
7 мая – у 19:30
8, 9, 14 мая – у 17:00
10 мая – у 14:30
11 мая – у 19:30 Цана білета: 3 000 рублёў

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Паветраны маршал**" (Вялікабрытанія, ЗША, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
8, 9, 10 мая – у 18:30
13, 14 мая – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Меладрама "**Прышпіліце рамяні**" (Італія, з 16 год)
8, 9, 10 мая – у 20:30
13, 14 мая – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Астэрыкс: Зямля Багоў**" (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
9, 10 мая – у 14:00
Цана білета – 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Ваенная драма "**А світанні тут ціхія**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
8, 10 мая – у 17:00
9 мая – у 19:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Ваенная драма "**Дарога на Берлін**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
8, 10 мая – у 19:30
9 мая – у 21:30
Цана білета – 48 000 рублёў (+ дак. фільм)
13 мая – у 19:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Баявік, трылер "**Сардэчна запрашаем у рай**" (2D, ЗША, з 16 год)
8, 10 мая – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Баранчык Шон**" (2D, Вялікабрытанія, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – у 13:00
10 мая – у 15:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Суперкаманда**" (3D, Іспанія, Аргенціна, без узроставых абмежаванняў)
9 мая – у 15:00
10 мая – у 13:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Ваенная драма "**Бітва за Севастопаль**" (2D, Расія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
9 мая – у 17:00
Цана білета – 45 000 рублёў

Камедыя "**Адной левай**" (2D, Расія, з 16 год)
13 мая – у 20:30
Цана білета – 48 000 рублёў (+ дак. фільм)
14 мая – у 18:30
Цана білета – 45 000 рублёў

Трылер, баявік "**Шалёны Макс: Дарога лютасці**" (3D, Аўстралія, з 16 год)
14 мая – у 20:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**ЗАКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА**
**ПРЭМ'ЕРА. "Кот у ботах"** (казка-прыгода, рус.), *Г.Уладычына*
10 мая – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27.**

УНП 600136804

ГАРАСКОП (8-14 МАЯ)

**Авен**. На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.

**Цялец**. У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.

**Блізняты**. Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаныя з лішкам.

**Рак.** Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў ваш час. А выхадныя прысвяціце адпачынку. Дамашнія справы, вядома, таксама рабіць трэба, але яны пачакаюць.

**Леў.** Не выпрабоўвайце лёс – усё ідзе, як трэба, і вам не трэба нічога рабіць. Сканцэнтруйцеся на праблемах сям'і, а фінансавыя і іншыя пытанні будуць вырашацца практычна без вашага ўдзелу.

**Дзева.** Кантралюйце свае эмоцыі і пачуцці, бо яны могуць выйсці за рамкі адносін з партнёрамі ці роднымі.

**Шалі.** Пры вырашэнні важных пытанняў не спяшайцеся, бо над якім бы вы пытаннем ні ламалі галаву, памятайце: першае рашэнне, якое здаецца відавочна правільным, на самой справе будзе памылковым. Таму абдумайце сітуацыю, прыміце да ведама дробныя дэталі.

**Скарпіён.** Вялікае задавальненне і душэўны пад'ём прынясе час, праведзены з дзецьмі. Да таго ж вы адчуеце прыліў сіл і энергіі, таму плённа папрацуеце і паспееце нашмат больш, чым звычайна.

**Стралец.** Пачатак тыдня не на жарт можа сапсаваць вам настрой. Але не засмучайцеся надоўга, таму што далей усё будзе складвацца як найлепш.

**Казярог.** Успомніце пра мінулыя грандыёзныя планы і паспрабуйце зноў увасобіць іх у жыццё. У любую справу дадавайце разлік і не дазваляйце нікому ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё: высвятляйце адносіны толькі за закрытымі дзвярыма.

**Вадалей.** Больш уважліва прыглядзьцеся да навакольных людзей, іх ідэі могуць аказацца своечасовымі і арыгінальнымі.

**Рыбы.** Каб аднавіць растрачаныя сілы, варта паназіраць за рыбкамі ў акварыуме. Не дапускайце старонніх людзей і іх парады ў рашэнне ўнутрысямейных праблем.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155
9 771991 715006



**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## ● НАДВОР'Е

**9 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +11 / +15 | | +7 / +13 | | +5 / +15 | | +10 / +17 | |
| | 741 | ↘ 6 | 746 | ↘ 2 | 745 | ↑ 3 | 745 | ↑ 3 |
| Вільня | +10 / +12 | | +4 / +13 | | +4 / +17 | | +11 / +14 | |
| | 752 | → 6 | 755 | → 4 | 753 | ↑ 3 | 754 | → 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.18
Захад 20.59
Даўжыня дня 15.41

Усход 0.58
Захад 9.51
Квадра 4

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +6 | +14 | 752 | ↘ 2 |
| Гродна | +6 | +13 | 754 | ↘ 2 |
| Мінск | +7 | +13 | 746 | ↘ 2 |
| Магілёў | +6 | +15 | 750 | ↘ 5 |
| Гомель | +9 | +16 | 753 | ↘ 7 |
| Брэст | +7 | +16 | 753 | ← 1 |

### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +0,4 °С у 1976 годзе
Максімальная тэмпература +26,7 °С у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,3 мм у 1978 годзе
Назіранні за 60 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Дзе ў рэгіёне можна ўзяць ровар напракат? Якія ўмовы для гэтага трэба выканаць і колькі гэта будзе каштаваць, чытайце праз тыдзень у "Рэгіянальнай газеце".



● ФЭСТЫ

## У Вілейцы адбудзецца рыцарскі турнір

**ВІЛЕЙКА**

Пройдзе ён **9 мая на Вілляніным хутары.** Арганізуе турнір клуб гістарычнай рэканструкцыі "Паходня" з Вілейкі.

У праграме – адзіночныя і масавыя баі рыцараў, штурм умацаванага лагера, турнір лучнікаў, забавы для гледачоў. Будзе гучаць сярэднявечная музыка. Зладзяць танцы, у якіх змогуць паўдзельнічаць усе ахвотныя. Можна будзе прымераць на сябе даспехі і сфатаграфавацца, расказаў удзельнік клуба **Юры Палонскі**. Запрацуе сярэднявечны цір.

**Пачатак а 17 гадзіне.** Уваход платны, цана – 20 тысяч рублёў.

**Аддзел інфармацыі.**



● ДА 70-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ

## Вайна ў радках беларускіх паэтаў

**Генадзь Бураўкін**
**"Якога колеру вайна"**
*Якога ж колеру вайна?*
*Уладна ў памяці ўсплывае*
*Бінтоў шпітальных белізна,*
*Матулі галава сівая,*
*І страху пабялелы твар.*

**Пімен Панчанка**
**"Дзеці вайны"**
*Ім не спявалі маткі*
*калыханкі,*
*Яны не чулі казак ад дзядоў,*
*Палохаў іх ахрыплы*
*голас танка,*
*Трывожыў іх журботны*
*ёнк удоў.*

**Анатоль Вярцінскі**
**"Рэквіем**
**па кожным чацвёртым"**
*Я іду,*
*ты ідзеш,*
*а ён не ідзе –*
*ён мёртвы.*
*Я пяю,*
*ты пяеш,*
*маўчыць кожны чацвёрты.*

**Ніл Гілевіч**
**"Не дачакаўшыся сыноў адтуль..."**
*Не дачакаўшыся сыноў*
*адтуль –*
*З вайны вялікай,*
*з прорвы апраметнай,*
*Сышлі ў магілу тысячы*
*матуль –*
*Марыль, Парасак,*
*Кацярын, Настуль.*

**Васіль Зуёнак**
**"З вайны сустрэлі мацяркі сыноў..."**
*З вайны сустрэлі мацяркі*
*сыноў*
*І выглядалі-радзілі нявестак.*
*А сын яе дадому не прыйшоў.*
*Прыйшло кароткае:*
*"Прапаў без вестак..."*

**Пятрусь Броўка**
**"Калі мільёны паміралі..."**
*Калі мільёны паміралі,*
*Каб засталося больш жывых,*
*Твае лісты мяне шукалі*
*Па многіх поштах палявых.*

**Аркадзь Куляшоў**
**"Над спаленай вёскай"**
*Над спаленай вёскай,*
*адзетай жалобным*
*гранітам,*
*Званы абзываюцца*
*рэхам вайны незабытым.*

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 19 (1045) 8.05.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 595. Падпісана ў друк у 9.00 7.05.2015.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.